“Народную Волю” выдаюць свабодныя журналісты для свабодных людзей.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 50 (4302)**

22 чэрвеня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**Да заканчэння падпіскі на “Народную Волю” на другую палову 2018 года застаецца ўсяго 5 дзён. Не спазніцеся!**

ПАДЗЕЯ

## Учора ў Мінску адбылося ўрачыстае адкрыццё стадыёна «Дынама» пасля капітальнай рэканструкцыі



НАДВОР’Е

### У выхадныя халаднавата і дождж

*“Атмасферны фронт, які ідзе з Заходняй Еўропы, у ноч на пятніцу прынясе ў Беларусь навальнічныя дажджы і выцесніць цёплае паветра за межы краіны. Услед за ім у Беларусь пачнуць паступаць паветраныя масы з паўночнага захаду Еўропы, і ў бліжэйшыя выхадныя тэмпературны фон істотна панізіцца”,* – адзначаюць у Белгідрамеце.

У **суботу 23 чэрвеня** ўдзень на большай частцы тэрыторыі чакаюцца дажджы, раніцай і ўдзень у некаторых раёнах па паўднёвым усходзе – моцныя. Месцамі магчымы навальніцы. Тэмпература паветра ўначы складзе +6…+12ºC, па паўднёвым усходзе Беларусі – +13…+14ºC. Удзень будзе не вышэй за +19ºC, толькі па паўднёвым захадзе – да +21ºC.

У **нядзелю 24 чэрвеня** захаваецца халаднаватае няўстойлівае надвор’е. На большай частцы тэрыторыі пройдуць кароткачасовыя дажджы, у некаторых раёнах па паўночным усходзе чакаюцца ліўні. Удзень месцамі магчымы навальніцы. Тэмпература паветра ўначы складзе +6…+11ºC, удзень – +14…+21ºC.

25 чэрвеня ў Жэневе на 38-й сесіі Савета па правах чалавека спецыяльны дакладчык ААН Міклаш Харасці прадставіць свой чарговы даклад па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі.

ФАКТ

### Цягнік ішоў да Беларусі 15 дзён

На тэрмінал Калядзічы дзяржаўнага прадпрыемства “Белінтэртранс – транспартна-лагістычны цэнтр” (БТЛЦ) Беларускай чыгункі прыбыў першы грузавы кантэйнерны цягнік з горада Шыцзячжуан – адміністрацыйнага цэнтра правінцыі Хэбэй на поўначы Кітая.

Гэты цягнік за 15 дзён пераадолеў каля 9,5 тыс. кіламетраў. У яго саставе 33 кантэйнеры з таварамі прамысловага прызначэння. Частку з іх забяруць атрымальнікі са станцыі, астатнія пойдуць аўтадастаўкай па Беларусі. Сярод атрымальнікаў грузу, што прыбыў, Кітайска-Беларускі індустрыяльны парк “Вялікі камень”.

Плануецца, што па новым маршруце саставы будуць адпраўляцца 3–4 разы на месяц, а ў адваротным напрамку – 2 разы на месяц.

ДЗЯКУЙ!

### На «Народную Волю» падпісаўся чэшскі сенатар…

Як вядома, Беларусь наведала група чэшскіх сенатараў на чале са старшынёй Камітэта па замежных справах, абароне і бяспецы парламента **Францішкам Бубланам**. Яны нанеслі візіт спікеру Савета Рэспублікі Міхаілу Мясніковічу, намесніку міністра замежных спраў Алегу Краўчанку, сустрэліся з прадстаўнікамі грамадскіх арганізацый, незалежных сродкаў масавай інфармацыі, палітычных партый.

У дыялогу з парламентарыямі Чэхіі браў удзел і галоўны рэдактар газеты “Народная Воля” Іосіф Сярэдзіч. На пытанне, які месячны падпісны кошт незалежнага выдання, ён адказаў: “У эквіваленце менш за тры еўра”.

На здзіўленне ўсіх прысутных сенатар **Томаш Ірса** дастаў з кішэні 50 еўра і працягнуў банкноту галоўнаму рэдактару. Прымаць грошы назад ён катэгарычна адмовіўся.

Што ж, будзем лічыць, на аднаго падпісчыка ў “Народнай Волі” стала больш. Апошнія нумары газеты чэшскі палітык ужо атрымаў па электроннай пошце ў варыянце ПДФ. За зроблены ўнёсак (афармлены законным чынам) ён будзе чытаць “Народную Волю”, калі не павысіцца яе падпісны кошт, амаль паўтара года.

**Рэдакцыя.**

ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА

Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

## «Нядобра нам глядзець адзін на аднаго цераз агароджу і жыць, скоса паглядаючы адзін на аднаго»




Учора прэзідэнт Беларусі **Аляксандр Лукашэнка** сустрэўся з еўракамісарам па еўрапейскай палітыцы суседства і перагаворах аб пашырэнні ЕС **Ёханесам Ханам**. Падчас перамоў была высока ацэнена роль госця ў нармалізацыі адносін нашай краіны з Еўрапейскім Саюзам. “У тым, што ў нас працягваецца нармалізацыя адносін і, напэўна, яны выйшлі на нейкі ўзровень стабільнасці, – велізарная ваша заслуга”, – звяртаючыся да Ё.Хана, сказаў Аляксандр Лукашэнка. І прадоўжыў: “Вы прыглядаліся да нас, мы прыглядаліся да Еўрапейскага Саюза. І ў выніку трансфармацый, што адбываюцца і ў нас, і ў вас, мы прынялі рашэнне, што нядобра нам глядзець адзін на аднаго цераз агароджу і жыць, скоса паглядаючы адзін на аднаго. Мы вырашылі ісці насустрач адзін аднаму, аднаўляць дружалюбныя, партнёрскія адносіны”.

Закранаючы тэму падпісання дакументаў, што рыхтуюцца, аб партнёрстве паміж Беларуссю і ЕС, Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што іх асновай павінны быць менавіта гандлёва-эканамічныя адносіны. “Размовы аб дэмакратыі, свабодзе слова, палітзняволеных, адмене смяротнай кары – гэта само сабой зразумела, мы не знімаем гэта з парадку дня, мы смела і адкрыта пра гэта гаворым. Але асновай з’яўляюцца нашы гандлёва-эканамічныя, фінансавыя адносіны”.

“Калі мы будзем бачыць у адносінах з ЕС гэта, мы можам смялей ісці і на трансфармацыю, рэфармаванне нашага палітычнага ладу. У адваротным выпадку паўторым лёс Савецкага Саюза, калі не бачылі эканомікі, не бачылі людзей, не разумелі, чым жывуць людзі, а пачалі ламаць палітычную сістэму. Паламалі, разбурылі краіну. Мы робім пэўныя высновы, атрымліваем урокі з гэтага… Калі трансфармаваць, то трансфармаваць трэба ўсё: паступова, планава, не забываючы пра эканоміку і жыццё людзей… Гэта павінна быць у аснове”, – заявіў Аляксандр Лукашэнка.

*www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».*

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

## Долговой пресс

В бюджет на 2019 год Минфин планирует заложить рост ВВП на 2,8%. Но чтобы выйти хоть как-то на определенный главой государства 100-миллиардный рубеж ВВП в долларовом эквиваленте к 2025 году, власти желают обеспечить рост ВВП на 4,1%, надеясь на благоприятные внешние факторы. Все бы ничего, но Беларуси нужно выплатить до 2025 года долгов на 23,46 млрд долларов: по внешнему госдолгу – 19,1 млрд, по внутреннему – 4,36 миллиарда. В среднем в год потребуется выплачивать 3,5 млрд «зеленых». Это приблизительно 5% ВВП.

Отметим, что долговая проблема присуща не только государству, но и корпоративному сектору. К началу лета долги крупных и средних компаний сложились в 69 млрд белорусских рублей. Рост задолженности за скользящий год – 14,8%. С июня 2017 года, как отметил Белстат, в апреле рост долгов по кредитам и займам предприятий был крупнейшим – на 1784 млн рублей. Отраслями с самыми большими долгами были: пищепром – 7957 млн рублей, деревообработка и целлюлозно-бумажная промышленность – 6876 млн, машиностроение – 4103 млн рублей. С начала года обязательства этих секторов экономики выросли соответственно на 8,9%, 14,9% и 4,3%. Взрывной рост долгов отмечен в горнодобывающей промышленности. Только за первые четыре месяца они увеличились в 3,4 раза, в том числе за счет кредитов, выделенных на инвестиционные цели. Отличились по долгам за счет кредитов и займов строительство (7708) и сельское хозяйство (5218). Подсократить долги удалось только «Беларуськалию» и энергетикам.

Предприятия и компании «поддерживают» долгами и кредитные учреждения. Только такие госбанки, как «Беларусбанк», «Белинвестбанк» и Банк развития имеют на 9,2 млрд долларов валютных обязательств. Если вкладчики, не дай Бог, вследствие какого-либо стресса в экономике ломанутся одномоментно в банки, государству как гаранту не хватит никаких золотовалютных резервов, чтобы с ними рассчитаться. С начала года запасы и так уменьшились с 7,3 до 6,9 млрд долларов. Но и они по большей части созданы за счет внешних кредитов.

*«Главный вызов, с которым надо справиться правительству и Нацбанку в ближайшие годы, – «перерасти» долговую нагрузку и выйти в зону безопасности. Будущим поколениям мы должны оставить Беларусь без долгов»,* – золотые слова официального лидера в послании к народу и правительству. Или: *«Закредитованность реального сектора растет. Упаси вас боже от того, чтобы даже думать переложить это на бюджет. А то я часто стал слышать разговоры о фискальных рисках. Если вы это меня так готовите к тому, чтобы за счет врачей и учителей оплатить бесхозяйственность предприятий, то лучше сейчас скажите прямо об этом и идите домой отдыхать»,* – также заявлял президент. Однако, согласно анализу финансового портала «Банки 24», объем очередных государственных субсидий, запланированных на этот год, составляет 400 млн в долларовом эквиваленте. Что немногим меньше, чем расходы республиканского бюджета, запланированные на здравоохранение или на образование. Главные получатели бюджетных средств общеизвестны – «Гомсельмаш», МАЗ, предприятия цементной промышленности и другие крупные госпредприятия. Задолженности местных госпредприятий оформляются в виде облигаций местных исполкомов с большим риском их непогашения. Иными словами, долги таких нерачительных госпредприятий продолжают перекладываться на плечи налогоплательщиков.

Основное финансовое бремя корпораций – выплаты основного долга по кредиту и процентам. Это бремя может доходить до половины и больше выручки. Возможно, если бы не долги, многие предприятия работали бы с прибылью. Чтобы выпутаться из долгов, они и сейчас недозакладывают необходимые объемы амортизационных отчислений. Когда придет время заменять оборудование, многие государственные компании и фирмы станут перед дилеммой – закрываться или по новой существовать за наш с вами счет. Понятно, что они выберут.

Определенные надежды правительство возлагает на указ президента №200 «О реструктуризации задолженности и прекращении обязательств», в котором предусматривается продажа банками долгов клиентов с дисконтом (со скидкой), приобретение банками взамен долгов акций предприятий-должников, вплоть до прощения задолженности. Однако аналитики подметили: а как к этому отнесутся, например, контролеры из КГК, которые любят трактовать подобные ситуации как нанесение ущерба бюджету со всеми вытекающими?

Нацбанк опубликовал отчет о финансовой стабильности, где указано, что доля всех обязательств госпредприятий, которые с высокой степенью вероятности не смогут рассчитаться по ним самостоятельно, составляет 14% (!) к ВВП. Не глядя на этот долговой навес, правительство все же рассчитывает на ускоренное развитие экономики. Ведь до заветных 100 млрд долларов экономика должна прирастать на 7–8% ежегодно. Однако впору задаться вопросом: не утянут ли растущие долги государства, банков и корпораций белорусскую экономику вновь в состояние рецессии?

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# На поклон к удаву?

Предложение Владимира Путина заняться углублением политической интеграции в рамках Союзного государства России и Беларуси не должно было, по идее, обрадовать его белорусского коллегу. Он ведь, в отличие от Путина, помнит, как и почему была выработана действующая модель интеграции, которая в политическом смысле никого и ни к чему не обязывала.

Поскольку дело было давно, то придется напомнить уважаемым читателям.

Президентом России был покойный ныне Борис Ельцин. Он был немолод и болен. И ему предложили принять Конституцию (или Конституционный акт) этого самого Союзного государства, который вводил посты президента и вице-президента. Президентом – по старшинству – становился Борис Николаевич, а его заместителем, разумеется, Александр Григорьевич. При этом в случае невозможности исполнения президентом своих обязанностей их исполнял вице-президент.

Ну, разумеется, предполагалась интеграция, как говорится, «по самое не могу»: в ведение союзного «центра» передавались вопросы внешней и внутренней политики, основы экономического регулирования, банковская система, а заодно и чемоданчик с «ядерной кнопкой» (то есть вопросы обороны и безопасности). И все на первый взгляд складывалось славно – пока бумагу не прочел тогдашний глава Администрации президента России. Звали его (если кто-то забыл) Анатолий Чубайс. Он задал резонный вопрос: то есть, если с Ельциным вдруг что-то случится, все эти полномочия автоматически переходят к Лукашенко?

Действительно. Если он – вице-президент, то он получает полномочия президента вместе с приданым в виде «ядерного чемоданчика». Чубайс тихо представил себе реакцию всего мирового сообщества и столь же тихо перечеркнул все это «планов громадье». Подписали никого ни к чему не обязывающую бумагу, и лишь в глазах главы белорусского государства при звуках имени Чубайса мелькало зловещее безразличие.

Однако прошло время. Ельцин сдал свои полномочия – причем почему-то не возможному вице-президенту Союзного государства, и наша небольшая, но гордая своим суверенитетом страна внезапно обнаружила: а Чубайс не такую уж и плохую штуку учудил! Союзное государство ведь худо-бедно, но существует, а потому можно цыганить миллиард за миллиардом кредитов, и мы политически независимы – когда припрет.

И тут я вспоминаю свой разговор с одним позабытым ныне видным деятелем первых лет лукашенковской власти:

– Ну хорошо, вот вы интегрируетесь с Россией. Насколько глубоко?

– Пока возможности позволяют и смысл есть. Дойдем так до самого конца.

– А потом?

– А потом развернемся и пойдем назад.

Я не догадался задать еще один вопрос:

– А потом?

Но его не было и смысла задавать. Нужно ведь, чтобы тебе еще позволили развернуться. Можно ведь застрять и просто не успеть убежать.

Наша интеграция с Россией носит, мягко говоря, многоэтажный характер. В азиатском направлении мы интегрируемся в составе Шанхайской организации сотрудничества, в евроазиатском – в составе ЕАЭС, в вопросах безопасности – в рамках Договора о коллективной безопасности. Наконец, когда все уходят и президенты остаются наедине, у них есть прекрасная возможность интегрироваться в структурах этого самого Союзного государства. В любой момент можно отвернуться, сказать, что у тебя болит голова, ты хочешь спать, тебя замучили молочные и газовые войны, и вообще – интеграция дороже стоит, поэтому дайте кредиты, любимые сволочи! Но менять условия игры – значит, подвергать себя неизвестности. Вернее как раз «известности»: дальше интегрироваться можно только по той модели, которую в свое время не допустил Чубайс, только в роли Ельцина будет теперь Лукашенко без «ядерного чемоданчика», а в роли молодого Лукашенко – Россия в лице ее удавообразного президента, немигающим взглядом уговаривающего белорусского коллегу войти к нему в раскрытую пасть. Так сказать:

– Вы меня видите, бандерлоги? Милости прошу – прямо в горло. Вместе со страной.

И убежать от этого немигающего взгляда трудно, если вообще возможно. Куда бежать? К Дональду, блин, Трампу? А он возьмет на содержание, будет кормить если не картошкой, то рисом – или ограничится плясками с Ким Чен Ыном? Весьма сомнительно, чтобы взял.

То есть, конечно, можно не менять восточного удава на западного, а просто попытаться улизнуть, но… Народ не поймет. Народ привык к тому, что его хоть впроголодь, но кормят. Электорат состарился, технологии промышленного производства (кроме нефтехимии, обслуживающей Россию) устарели, а IT свои тридцать тысяч работников и их семьи обеспечивают, так что оставшиеся семь миллионов избирателей им по барабану. Нужно ползти на поклон к удаву, но это уже – интеграция, углубленная опять-таки «по самое не могу», и выдержать такую модель становится все труднее.

Сейчас можно сколько угодно спорить о том, кто во всем этом виноват, но лучше обсудить другой вопрос: что делать? Волокли нас в Союзное государство, не спрашивая, хотим мы такой интеграции или нет, а вот отползать от удавьей пасти можно только хорошо скоординированными всеобщими действиями.

Проблема в том, что начать эту координацию можно только в результате обсуждения, что же мы строим, какое именно – Союзное и не слишком союзное, а вполне суверенное – государство. Но такой диалог должна начать с обществом и оппозицией власть, а она уже продемонстрировала: тихо сама с собою она ведет беседу, и на большее рассчитывать не стоит.

Отползай, родной, отползааааааа…

Можно ведь и не успе…

ПАЛІТКУХНЯ

# «Чалавек з вуліцы не зможа стаць адзіным кандыдатам…»

*Днямі старшыня руху “За Свабоду” **Юрась Губарэвіч** дапусціў, што дэмакратычны кандыдат, які кіне пальчатку прадстаўніку ўлады, можа быць абраны шляхам “праймерыз”, прасцей кажучы, шляхам унутрыпартыйных выбараў.*

Адзначым, што старшыня Цэнтрвыбаркама Беларусі Лідзія Ярмошына паведаміла, што парадак і даты правядзення парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў вызначыць асабіста Аляксандр Лукашэнка. Справа ў тым, што, згодна з палітычным календаром, бліжэйшыя прэзідэнцкая і парламенцкая кампаніі павінны прайсці ў 2020 годзе. Ярмошына выказала меркаванне, што кампаніі трэба развесці па розных гадах – не выключана, што адна з іх пройдзе ў наступным годзе. Якая канкрэтна – і будзе вырашаць кіраўнік дзяржавы.

Пакуль гэтае пытанне вырашаецца, беларуская апазіцыя вядзе перамовы аб механізме вылучэння адзінага кандыдата на будучых прэзідэнцкіх выбарах.

– Зыходзячы з апошніх заяў, нам трэба быць падрыхтаванымі да палітычнай барацьбы, – гаворыць у размове з “Народнай Воляй” Юрась Губарэвіч. – Чаму беларускай апазіцыі патрэбны адзіны кандыдат? Хаця б таму, што ніводная апазіцыйная партыя ў Беларусі не можа самастойна сабраць 100.000 подпісаў выбаршчыкаў. Гэта паказалі мінулыя палітычныя кампаніі.

**– Ці можа ўдзельнічаць у выбарах адзінага кандыдата любы жадаючы?**

– На маю думку, чалавек з вуліцы не можа прэтэндаваць на тое, каб быць адзіным кандыдатам. Як паказвае практыка, “самавылучэнцы” часцяком займаюцца самапіярам, таму “кандыдаты-фрыкі” будуць адсякацца на першам жа этапе. Пры гэтым мне, напрыклад, хацелася б, каб у праймерыз узялі ўдзел вядомыя ў Беларусі асобы. Менавіта асобы, а не толькі палітыкі. На маю думку, важна, каб у чалавека быў аўтарытэт у грамадстве, і, безумоўна, патэнцыяльны кандыдат павінен быць прыхільнікам дэмакратычных каштоўнасцяў і мець свой погляд на змены, якія патрэбны Беларусі.

**– Ці не баіцеся вы, што ідэя з праймерыз не будзе падтрымана ўнутры апазіцыі і зноў магчымых дэмакратычных кандыдатаў будзе некалькі?**

– Такога выключаць, канечне, нельга, але я яшчэ раз паўтару сваю думку: ніводная апазіцыйная сіла ў Беларусі зараз не можа аднаасобна кінуць выклік дзеючай уладзе. Таму неабходна аб’ядноўвацца.

**– Калі будзе аб’яўлена пра афіцыйны старт праймерыз?**

– Хутчэй за ўсе, гэта адбудзецца ўвосень.

## Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА: «Да вызначэння адзінага кандыдата патрэбна далучыць сотні тысяч людзей!»

*Ідэя вылучэння адзінага кандыдата ад апазіцыі ў Беларусі не новая. Паспяховая спроба абраць адзінага кандыдата на прэзідэнцкія выбары, па сутнасці, была толькі адна – у 2001-м, калі за вышэйшую дзяржаўную пасаду з Аляксандрам Лукашэнкам спрачаўся Уладзімір Ганчарык. Праз 5 гадоў, у 2006-м, пасля абрання адзіным кандыдатам Аляксандра Мілінкевіча, у прэзідэнцкую гонку ўключыўся Аляксандр Казулін…*

*Дарэчы, адзіным кандыдатам 12 гадоў таму мог стаць старшыня Аб’яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька, але тады ён саступіў Мілінкевічу.*

– Я дагэтуль упэўнены, што абранне адзінага кандыдата – самы правільны шлях змагання за ўладу ў Беларусі, – гаворыць Анатоль Уладзіміравіч. – Не сакрэт, што механізм яго абрання быў прапісаны і ўзгоднены яшчэ перад выбарамі 2010 года. Менавіта АГП стала ініцыятарам яго правядзення, бо ніякія кулуарныя дамоўленасці, ні Кангрэсы дэмакратычных сіл не маглі ахапіць усіх зацікаўленых. Дарэчы, я ўпэўнены, што калі б у 2010-м усе кандыдаты пагадзіліся на праймерыз, то не было б тых страшных наступстваў пасля Плошчы, а тады, нагадаю, многія апынуліся за кратамі…

За аснову праймерыз, пра што і распавёў Юрась Губарэвіч, узяты якраз тыя напрацоўкі, якія былі ў нас у 2010-м.

**– Што патрэбна для рэалізацыі гэтых напрацовак?**

– Да працэсу вылучэння адзінага кандыдата – а я нават не назваў бы гэтага чалавека кандыдатам, а назваў бы яго нацыянальным дэмакратычным лідарам – патрэбна далучыць як мага больш людзей. Хаця б сто тысяч чалавек. Чым больш людзей возьме ўдзел у працэсе галасавання, тым лепей. 100 тысяч чалавек, якія паўдзельнічаюць у выбары нацыянальнага дэмакратычнага лідара, – гэта патэнцыяльныя 100 тысяч подпісаў выбаршчыкаў за вылучэнне чалавека кандыдатам у прэзідэнты. Але для гэтага трэба працаваць…

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ВІНШУЕМ!

# Валянцін Елізар’еў – уладальнік прэміі Саюзнай дзяржавы

*Высокай узнагароды балетмайстар удастоены ў галіне літаратуры і мастацтва за 2017–2018 гады.*

Лаўрэатаў вызначылі на пасяджэнні Вышэйшага дзяржаўнага савета ў Мінску. Акрамя народнага артыста СССР Валянціна Елізар’ева прэміі прысуджаны кампазітару народнаму артысту Расіі **Алегу Іванову**, аўтарскаму калектыву ў складзе дырыжора народнага артыста Расіі **Валерыя Палянскага** і заслужанага работніка культуры РФ **Аляксандра Шаніна**.

Прэміі Саюзнай дзяржавы прысуджаюцца за значны ўклад ва ўмацаванне адносін братэрства, дружбы і ўсебаковага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Расіяй і ўручаюцца адзін раз у два гады. Памер адной прэміі складае пяць мільёнаў расійскіх рублёў, па курсе гэта каля 78,5 тысячы долараў.

ФОТАФАКТ

# У Віцебску ўсталявалі помнік самаму вялікаму чалавеку ў свеце

Манументальна-дэкаратыўная кампазіцыя «Віцебскі волат» скульптара **Івана Казака** мае ў вышыню 3 метры і 12 сантыметраў. Прататыпам для яе стаў **Фёдар Махноў** (1878–1912) – беларускі Гулівер, ураджэнец Віцебшчыны. Яго рост складаў 285 сантыметраў.



З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Валерый КАВАЛЬКОЎ, намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны:

# «Многае будзе вызначацца фінансавымі магчымасцямі!»

Учора на сайце Міністэрства працы і сацыяльнай абароны прайшла анлайн-канферэнцыя на тэму “Усё пра пенсіі” з удзелам намесніка міністра працы і сацыяльнай абароны Валерыя Кавалькова.

Задаць пытанне чыноўнікам ведамства мог любы жадаючы, даслаўшы яго па электроннай пошце. “Народная Воля” скарысталася такой магчымасцю і запыталася ў Кавалькова, як супрацоўнікі міністэрства ставяцца да прапановы, якая нядаўна абмяркоўвалася ў Савеце Рэспублікі, працягнуць павышэнне пенсіённага ўзросту для жанчын пасля 2022 года і зрабіць яго аднолькавым з пенсіённым узростам для мужчын – 63 гады. Наколькі верагодны такі сцэнарый? Другое пытанне тычылася ўвогуле радыкальнай заявы дырэктара Беларускага эканамічнага даследча-адукацыйнага цэнтра (BEROC) **Кацярыны Барнуковай**, якое яна агучыла ў інтэрв’ю нашаму выданню – працягнуць паступовае павелічэнне пенсіённага ўзросту і для жанчын, і для мужчын да 65 гадоў. Ці не справакуе гэта сацыяльны выбух у грамадстве?

Трэба адзначыць, што пытанне наконт далейшага павышэння пенсіённага ўзросту для жанчын да 63 гадоў Валерыю Кавалькову падкінулі і іншыя наведвальнікі сайта. Адказ чыноўніка быў вельмі лаканічны. “*Прапановы па гэтым пытанні ў цяперашні час не прапрацоўваюцца*”, – заявіў намеснік міністра.

Што тычыцца другога пытання “Народнай Волі”, то Валерый Кавалькоў адказаў на яго так:

– 2018 год – гэта толькі другі год, у якім павышаецца пенсіённы ўзрост. Разам з тым ужо сёння сапраўды некаторымі экспертамі агучваецца мэтазгоднасць далейшага павышэння пенсіённага ўзросту да 65 гадоў для абодвух палоў, гэта значыць больш істотнага павышэння ўзросту для жанчын. У абгрунтаванне прыводзяцца довады аб іх большай працягласці жыцця, успамінаецца і гендарная роўнасць. У канчатковым рахунку, як і ў любой дзяржаве, многае будзе вызначацца суадносінамі занятых у эканоміцы і атрымальнікаў сацыяльных выплат, або, прасцей кажучы, фінансавымі магчымасцямі.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ДАРЭЧЫ

## Дык ці будуць павышацца пенсіі?

Падчас анлайн-канферэнцыі прагучала і такое пытанне.

На жаль, засталося яно без канкрэтнага адказу. “*Магчымасць павышэння пенсій у 2018 годзе будзе вызначацца з улікам наяўных сродкаў у бюджэце Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва*”, – заявіла начальнік галоўнага ўпраўлення пенсіённага забеспячэння Міністэрства працы і сацыяльнай абароны **Наталля Мурашкевіч**.

СУД ДЫ СПРАВА

# 70-гадовага мільянера асудзілі на 39 гадоў турмы

Такі прысуд у дачыненні да Рона Медзіча, аўстралійскага мільянера, які займаецца дэвелоперскім бізнесам, вынес Вярхоўны суд штата Новы Паўднёвы Уэльс.

Медзіч быў прызнаны вінаватым у замове забойства свайго былога бізнес-партнёра 45-гадовага Майкла Макгерка. Ён быў забіты ў Сіднеі ў верасні 2009 года стрэлам у галаву з блізкай адлегласці на вачах у свайго дзевяцігадовага сына.

Медзіч таксама прызнаны вінаватым у запалохванні ўдавы Макгерка. Суддзя, агучваючы вердыкт бізнесмену, заявіў, што той быў «неймаверна бессардэчны», калі рабіў запалохванне ўдавы праз год пасля таго, як арганізаваў забойства яе мужа. Суддзя таксама паведаміў, што смерць Макгерка аказала «катастрафічны эфект» на яго жонку і іх чацвёра дзяцей, якія на той момант былі ва ўзросце ад васьмі да 12 гадоў.

Паводле вердыкту суда, перыяд заключэння без магчымасці ўмоўна-датэрміновага вызвалення складзе 27 гадоў. Такім чынам, Медзічу будзе 97 гадоў, калі ён зможа падаць прашэнне аб датэрміновым вызваленні.

Народная Воля http://www.nv-online.info
22 ЧЭРВЕНЯ 2018 г.

ДЗІКУНСТВА

# 100 базавых велічынь за спадчыну

## Здзек? Цынізм? Непрыхаванае нахабства?

*Мінчанка Зінаіда Тарасевіч не можа знайсці слова, каб ахарактарызаваць адказы, якія яна атрымала ад старшыні Мінскага абласнога Савета дэпутатаў Наталлі Якубіцкай і старшыні Мінскага раённага выканкама Івана Крупко.*

Пра трагічную і адначасова паказальную для нашай рэчаіснасці гісторыю **Зінаіды Антонаўны Тарасевіч** "Народная Воля" ўжо расказвала.

Увесь род Зінаіды Тарасевіч па матчынай лініі быў вынішчаны сталінскімі рэпрэсіямі. Вялікую сям'ю яе бабулі **Анастасіі Зенчык** разам з васьмю дзецьмі, маленькай унучкай і нявесткай бальшавікі забралі ноччу з 3 на 4 сакавіка 1930 года і як ворагаў народа саслалі ў Архангельскую вобласць. Хату, якую Зенчыкі толькі пабудавалі і на будоўлі якой загінуў дзядуля Зінаіды Антонаўны, савецкая ўлада канфіскавала. Адной з дачок – Таццяне – на той момант было 17 год. І яна адзіная з Зенчыкаў, хто выжыў у сталінскім лагеры, – к 1937 году ўсе яе родныя памерлі ад холаду, голаду, непасільнай працы і здзекаў НКВД. Таццяна вельмі хацела нарадзіць дзіця, каб было каму расказаць пра свой вынішчаны бальшавікамі род. У 1937 годзе ў Таццяны і сасланага Антона Тарасевіча, які таксама паходзіў з Беларусі, нарадзілася дачушка Зіна. *"З'явілася на свет пад елкай*, – уздыхае Зінаіда Антонаўна, *– бо радзільных дамоў на катарзе не было. Так, на збочыне жыцця, улады і дагэтуль імкнуцца пакінуць такіх, як я"*.

Амаль 30 гадоў Зінаіда Антонаўна змагаецца за права жыць у хаце, пабудаванай яе продкамі. Гэта проста цуд, але хата Зенчыкаў 1930 года пабудовы, з якой у адну ноч забралі і вывезлі ўсю сям'ю, і па сёння захавалася і стаіць на тым жа самым месцы ў вёсцы пад Мінскам.

Як так сталася, што Зінаіда Антонаўна нават не можа пераступіць парог гэтай хаты?

Справа ў тым, што пасля Вялікай Айчыннай вайны Антону Тарасевічу, які гераічна ваяваў на фронце, дазволілі вярнуцца на радзіму, у Беларусь, і забраць з ГУЛАГа сям'ю. Тарасевічам даў прытулак адзіны не сасланы на катаргу і ацалелы брат Антона Мікалай Міхайлавіч Тарасевіч. У 12-метровым бараку на вуліцы Шчорса ў Мінску месціліся пяць чалавек. І ў той жа час у роднай вёсцы Таццяны Зенчык-Тарасевіч стаяла пабудаваная яе бацькамі хата! Праўда, не пустая. Савецкая ўлада хуценька знайшла капітальнай пабудове прызначэнне. Дом падзялілі на дзве часткі: у адной размясцілі школу, у другой пасялілася настаўніца. Яна, дарэчы, не дазволіла Таццяне Тарасевіч нават зайсці ў бацькоўскую хату!



**Зінаіда Антонаўна Тарасевіч спадзяецца, што справядлівасць – не пустое слова ў нашым грамадстве.**

Зінаіда Антонаўна ўспамінае, што маці колькі жыла, столькі хадзіла па розных інстанцыях, звярталася і ў сельсавет, і ў КДБ, прасіла, каб ёй вярнулі маёмасць. Аднак у адказ чула толькі "Не положено". *"Напрыканцы 1980-х мама прасіла, каб хоць дазволілі памерці ў роднай хаце*, – расказвала Зінаіда Антонаўна. – *Але ж ізноў ёй адмовілі. Паміраючы, яна дала мне наказ: "Вярні хату. Забяры яе ў бандытаў"*.

З 1992 года Зінаіда Антонаўна пачала змаганне за сваю сямейную спадчыну.

Перш-наперш жанчына дамаглася рэабілітацыі ўсіх сваіх родных. Аднавіла іх чэсныя імёны і выбіла з рук улад галоўны аргумент не вяртаць хату: у адказах, якія атрымлівала яе маці з розных інстанцый, увесь час сцвярджалася, што Зенчыкі – не рэабілітаваны, яны ворагі народа і таму былі сасланы з канфіскацыяй маёмасці.

Аднак і пасля рэабілітацыі родных чыноўнікі знаходзілі розныя падставы, каб не вяртаць хату Зінаідзе Антонаўне. Спачатку прыдумалі звышцынічнае абгрунтаванне: Зінаіда – унучка Антаніны Зенчык і не адносіцца да ліку спадкаемцаў першай чаргі, якія маюць правы на хату. Магчыма, па законе яно і так. Але наколькі гэта справядліва? Хто ж, як не яна – адзіны жывы прадстаўнік роду Зенчыкаў, – нашчадак спадчыны сваіх загінуўшых па віне ўлад родных?

Зінаіда Антонаўна, канешне ж, не адступілася і звярнулася ў дзяржаўную камісію па аказанні садзейнічання ў захаванні правоў ахвяр палітычных рэпрэсій 1920–1980-х гадоў і ўвекавечанні іх памяці, якая была створана пасля развалу СССР у 1991 годзе. Камісія рэкамендавала выканкаму Мінскага райсавета выплаціць Тарасевіч грашовую кампенсацыю ў дзесяціразовым памеры мінімальнай заработнай платы за маёмасць маці і **вярнуць дом у натуры,** які раней належаў сям'і Зенчыкаў альбо кампенсацыю за гэты дом. Зінаіда Антонаўна, безумоўна, настойвала на тым, каб вярнулі дом. Аднак у райвыканкаме пачалася крутня, і вось ужо колькі гадоў жанчына ходзіць па замкнёным коле: чыноўнікі адной структуры перанакіроўваюць яе ў другую, і хату ніхто не вяртае. А хата, хоць і мае гаспадароў, стаіць літаральна ў заняпадзе.

Ад адчаю ўвесну гэтага года Зінаіда Антонаўна звярнулася ў "Народную Волю", спадзявалася, што артыкул у газеце прыцягне ўвагу высокапастаўленых чыноўнікаў да праблемы і нарэшце ёй вернуць пабудаваную яе дзедам і бабуляй хату! І як быццам бы рэакцыя на публікацыю была.

Аднак замест прынцыповага, справядлівага рашэння зноў прыйшла адпіска. "*Ваша пытанне разгледжана... Камісіяй быў вызначаны памер грашовай кампенсацыі за жылы дом, канфіскаваны ў Вашай сям'і*", – пазіцыя чыноўнікаў засталася нязменнай. Гэтым разам памер кампенсацыі вызначаны ў 100 базавых велічынь. Для тых, хто не ведае, нагадаю – гэта 2450 рублёў.

– *Мне проста плюнулі ў твар*, – кажа Зінаіда Антонаўна. – *Нават не ведаю, якімі словамі ахарактарызаваць такое стаўленне сённяшняй улады да памяці бязвінна рэпрэсаваных людзей. Здзек? Цынізм? Непрыхаваная нахабнасць? Гэта глумленне з мяне і з памяці ўсіх рэпрэсаваных! З гэтай хаты 11 чалавек саслалі ў Архангельскую вобласць, 10 загінулі, і толькі мая матуля выжыла ў ГУЛАГу. 15 гадоў і 6 месяцаў яна адпрацавала на лесапавале, вярнулася інвалідам, у яе, уявіце, мазалі былі на плячах – столькі бярвенняў яна на іх пераносіла! І мне сёння прапануюць 100 базавых велічынь! Адзін квадратны метр у навабудоўлях Мінскага раёна каштуе 600 долараў. То бок мне прапаноўваюць набыць 2 квадратныя метры: каб труну туды апусціць – хопіць!*

*Хаця, зразумела, справа не ў грашах. Каб і 100 тысяч базавых велічынь давалі – адмовілася б іх прыняць. Мне патрэбна мая хата!*

*Я колькі жыву, столькі адчуваю сябе прыніжанай: да 1992 года, да рэабілітацыі, толькі напамін пра тое, што мае бацькі "ворагі народа", не даваў мне ўліцца ў жыццёвае асяроддзе, мяне прыгняталі. Я з найвялікшай радасцю ўспрыняла такую палітычную з'яву, як рэабілітацыя, лічыла, што нарэшце цяжар, які насіла, зваліўся з маіх плеч. Але тая хваля дэмакратыі і свабоды як нахлынула, таксама раптоўна і сышла – нічога не змянілася ў адносінах дзяржавы як да жывых, так і да мёртвых ахвяр палітычных рэпрэсій. Тое, што адбываецца зараз у Курапатах, – таму сведчанне. Што вы думаеце, адкрыццё рэстарана "Паедзем паядзім" не чарговы плявок у душы нашчадкаў бязвінна расстраляных там людзей?! Не здзек з традыцый беларускага народа, які на тэрыторыі могілак калі што і будаваў, дык гэта быў храм альбо капліčка?! Цікава, чаму маўчаць прадстаўнікі Царквы і Касцёла, дзе пісьменнікі? Яны ж прызваны лячыць душу народа. Дзе вы, сумленныя грамадзяне Беларусі, і чаму маўчыце?!*

Зінаіда Антонаўна паведаміла ў Мінскі абласны Савет дэпутатаў і райвыканкам, што прапанаваныя ёй 100 базавых велічынь прыняць адмаўляецца, і звярнулася з лістом да старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу **Уладзіміра Андрэйчанкі** і дэпутатаў, напісала ў Адміністрацыю прэзідэнта. Яна просіць народных абраннікаў і чыноўнікаў разабрацца ў дадзенай сітуацыі і аднавіць яе правы на хату. "*Ну няўжо гэты здзек ніколі не скончыцца?! Няўжо тысяча долараў сувымерна з тым, як і ад чаго загінула мая сям'я?!*" – уздыхае жанчына.

Днямі Зінаідзе Тарасевіч прыйшоў адказ з Адміністрацыі прэзідэнта, у якім паведамляецца, што яе ліст атрыманы і "*па кампетэнцыі накіраваны ў пракуратуру Мінскай вобласці і ўзяты на кантроль*". Аб выніках разгляду яна будзе праінфармавана ва ўстаноўленым парадку. Пачакаем…

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

НЕДВИЖИМОСТЬ

# Аренда коттеджа в Дроздах доходит до 5 тысяч долларов в месяц

## Эксперты объясняют, почему сейчас сложно продать загородный дом, и советуют сдавать дачи и коттеджи в аренду.

Анализ рынка загородной недвижимости предоставили специалисты агентства недвижимости «Твоя столица». По их утверждению, с 2009 года цены на домики за Минской кольцевой дорогой снижаются. В продаже достаточно объектов, которые по заявленной цене уже не первый год ждут своего покупателя.

– *Долгий срок экспозиции объектов на рынке обусловлен текущей конъюнктурой рынка*, – рассказывает начальник отдела «Дома. Дачи. Коттеджи» агентства недвижимости «Твоя столица» **Елена Акулич.** – *Уже который год многие продавцы загородной недвижимости сталкиваются с тем, что предлагаемые покупателями цены значительно ниже себестоимости строительства подобного нового объекта. Причина этой ситуации в том, что кризисы 2000-х годов существенно снизили покупательскую способность наших соотечественников, а широкий выбор поддерживает ценовую конкуренцию между продавцами. Кроме того, некоторые покупатели стали задаваться вопросом: зачем им вкладывать большие деньги в покупку загородного объекта, а затем тратить средства на его обслуживание и поддержание в хорошем состоянии, когда необходимость в нем только 3–4 месяца в году? Гораздо проще на теплые месяцы снять его в аренду.*

Тем, кто настроен продать свой загородный дом, эксперт советует проявлять большую активность.

– *Уже недостаточно просто дать объявление о продаже и ждать звонков*, – говорит Елена Акулич. – *Нужно самим выходить на потенциальных покупателей и уже после осмотра вести диалог о стоимости. Как показывает практика нашей работы, такой подход дает хорошие результаты: благодаря активной работе с потенциальными покупателями порядка 60% наших сделок совершаются в течение месяца.*

Что касается сдачи в аренду дачи или коттеджа, то начальник отдела аренды жилья агентства недвижимости «Твоя столица» **Маргарита Почицкая** поясняет:

– *В зависимости от периода востребованности дома, дачи и коттеджи условно можно разделить на две группы: объекты первой арендуются только в теплое время года, а второй группы – для круглогодичного проживания как альтернатива квартире в городе.*

*Минимальный порог стоимости можно очертить в пределах порядка 100 долларов США в месяц без учета электроэнергии.*

*Стоимость аренды будет увеличиваться при приближении к Минску и/или улучшения качественных характеристик. Например, стоимость аренды капитальной дачи (кирпичной, блочной) в пределах 40-километровой зоны от МКАД со всеми удобствами (санузел внутри дома, газ, интернет и участок до 10 соток) уже может достигать 300–400 долларов в месяц.*

*Есть категория арендаторов, которые вместо отдыха на море предпочитают на лето сменить место жительства. Ими востребованы комфортабельные коттеджи в пределах 20 километров от МКАД: газифицированные, с оптоволоконным интернетом, кондиционированием, возможно, с саунами и т.п. Располагаться они должны не в дачных кооперативах, а в коттеджных поселках. Важен комфорт проживания и удобство подъездных путей, поскольку ежедневно арендаторы буду ездить на работу и обратно. Стоимость аренды подобных коттеджей может начинаться от 500 долларов и достигать 1000 долларов в месяц.*

*Если арендодатель рассчитывает на стоимость аренды в 1000 долларов и более, необходимо чтобы объект отвечал самым притязательным требованиям арендаторов как по техническому наполнению, так и по местоположению. Подобные коттеджи зачастую арендуются для глав дипломатических представительств. Примерная площадь 200–500 кв. метров. Наиболее высокие цены характерны для коттеджей в Дроздах – 2500–5000 долларов в месяц. А, например, в Боровлянах и Дроздово можно найти апартаменты за 1500 долларов. Подобные коттеджи предлагаются и в Минске – в районе за Национальной библиотекой, месячная аренда таких домов – 1500–3000 долларов, немного дешевле снять домик в Зацени. Но опять же – все зависит от коттеджа и его качеств.*

**Игорь ЗАЛЕССКИЙ.**

100 РАДКОЎ



Міхася СКОБЛЫ

# Русіфікацыя з тылу

У адной з чарадзейных казак Андэрсена ўсхадзілася вялікая бура і перавесіла з месца на месца вывескі і шыльды. Людзі хадзілі ад будынка да будынка і не маглі разабрацца, дзе што знаходзіцца. І здарыўся ў тым царстве-гаспадарстве несусветны гармідар, і прыйшло яно да заняпаду.

Гэткай бурай у Беларусі стаў сумнапамятны моўны рэферэндум, які "перавесіў шыльды" не толькі на розных установах, але і ў чыноўніцкіх галовах. Бо за дваццаць тры пасляэферэндумныя гады ўся ўладная вертыкаль так і не прыйшла да цяму, што такое дзяржаўнае двухмоўе і як яно ў нашай краіне павінна забяспечвацца.

Скажам, мае права грамадзянін Беларусі атрымаць адукацыю на роднай беларускай мове? Мае. Але не атрымлівае, паколькі ў забудаванай лядовымі палацамі, стадыёнамі, аграгарадкамі і супермаркетамі краіне чамусьці няма месца для нацыянальнай школы. У выніку мы сёння маем афіцыйную статыстыку, якая гучыць як прыгавор да вышэйшай меры ўсёй беларускай нацыі. У Беларусі сёння на рускай мове навучаюцца 86% школьнікаў, 90% дзетак у яслях і дзіцячых садках і 99,9% (!) студэнтаў у ВНУ.

Часта выступаючы ў школах, я за апошнія пяць-шэсць гадоў неаднойчы пераконваўся, што дзеці проста *перастаюць разумець* беларускую мову. Летась на сустрэчы ў Ашмянах да мяне падышоў хлопчык-пяцікласнік і чамусьці загаварыў са мной па-польску. Аказалася, маю беларускую мову ён успрыняў як… польскую, якую ён чуў на летніх канікулах, наведваючы з бабуляй касцёл.

А нядаўна пасля сустрэчы ў адной са школ на Маладзечаншчыне дзве старшакласніцы заявілі мне з выклікам, што беларуская мова для іх – абракадабра, яны абедзвюма рукамі за мову рускую, ім вельмі даспадобы Пуцін, бо ён "крутой мужик". І ўвогуле – Расія forever, "поэтому мы с ней – одно государство".

Да падобных фактаў можна ставіцца па-рознаму – успрымаць іх усур'ёз ці ігнараваць. Для мяне ж тэндэнцыя відавочная – згубіўшы родную мову ўслед за гарадской, і вясковая наша школа стала выхоўваць пустадомкаў з арыентацыяй на чужыя палацы, дзе яны згодны жыць-служыць хоць прыбрамнікамі, хоць падмятальнікамі.

Рэферэндумная бура нарабіла гармідару не толькі ў школе. У першыя гады незалежнасці ў Беларусі амаль усе раённыя газеты былі беларускамоўнымі. Але ж трэба было неяк рэагаваць на ўзаконенае двухмоўе, і рэдактары раёнак дзе з падказкі начальства, дзе па ўласнай ахвоце ўнеслі ў статутныя дакументы змены. Была мова выдання з часу заснавання беларуская, стала – беларуская і руская. Прычым неяк рэгламентаваць працэс ніхто не збіраўся, усё пусцілі на самацёк. У выніку раёнкі толькі ў падпісным каталогу фігуруюць як беларускія (па назвах), але беларускай мовы на іх старонках практычна не засталося.

Вось я з болем у душы бяру ў рукі родную зэльвенскую "Працу", якую заўсёды выпісвала і чытала наша сям'я. Дзесяцігоддзямі газета была цалкам беларускамоўнай – ад райкамаўскай перадавіцы на першай паласе да некралогаў на апошняй. І нікому гэта не замінала, нікога не бянтэжыла.

У сучаснай "Працы" па-беларуску даецца толькі "шапка" – назва, дата заснавання і цана. Усе астатнія матэрыялы, за рэдкім выключэннем, публікуюцца па-руску. Само па сабе ўзнікае пытанне: чаму? Хіба на пачатку 1990-х у Зэльве рассялялі дывізію Савецкай арміі, выведзеную з Германіі пасля развалу СССР, як гэта адбылося ў суседнім Слоніме? Не. Хіба васьмітысячная Зэльва вымірае і на месца аўтахтонаў прыехала рускамоўнае насельніцтва з Прыбалтыкі? Таксама не. Хіба ў зацішную Зэльву перасяліліся некалькі тысяч бежанцаў з ахопленага вайной Данбаса? Не было такога. Усё ў Зэльве засталося на сваім месцы, а вось беларускую мову з раёнкі рэферэндумная шура-бура вымела.

І каб жа так сталася ў адной Зэльве! Фактычна цалкам рускамоўнымі сталі і ваўкавыскі "Наш край", і мастоўская "Зара над Нёманам", і абласныя "праўды" – "Гродзенская", "Магілёўская", "Гомельская" і "Мінская", і яшчэ каля сотні рэгіянальных газет па ўсёй краіне.

Складзіце іхнія наклады – пад паўмільёна асобнікаў атрымаецца.

Уплывовая трыбуна? Яшчэ якая! З прэзідэнцкай "Советской Белоруссией" (якая беларускую мову ігнаруе здаўна) паспаборнічаць можа.

А ўвогуле гэтак званых двухмоўных выданняў у Беларусі каля 500. Амаль усе яны фактычна рускамоўныя. І гэта ўжо хваля, якая можа ператварыцца ў цунамі, што перакуліць любы карабель.

Ведаю, шмат дзе чытачы пратэставалі. І атрымлівалі з рэдакцый стандартныя адказы-адпіскі: "У адпаведнасці з дзейным заканадаўствам аб СМІ не дапускаецца ўмяшанне збоку ў дзейнасць рэдакцыйнага калектыву, у тым ліку ў моўных пытаннях". Маўляў, не дурыце нам галавы, мы дзейнічаем па законе. А закон той, вядомая справа, як дышаль: куды павярнуў, туды і выйшла.

Каб не паварочваўся той закон дышлем, у яго неабходна ўнесці папраўку: зарэгістраваў ты сваю газету як двухмоўную – забяспеч, калі ласка, і раўнапраўнае выкарыстанне моў, 50 на 50. Ці ўнясе такую – выратавальную – папраўку Міністэрства інфармацыі на разгляд у парламент? Хацелася б спадзявацца, хоць са згоды таго самага міністэрства пасля рэферэндуму і адбылося паступовае выцясненне беларускай мовы са старонак рэгіянальных СМІ.

Выгнанне мовы з вясковай школы і рэгіянальнага друку я назваў бы русіфікацыяй з тылу, паколькі беларуская вёска заўсёды была надзейным тылам традыцыйнай нацыянальнай культуры. Сёння ж мы страчваем і тыл, бо "Россия forever" з вуснаў маладзечанскай школьніцы і рускамоўная раёнка ў руках дзядулі на вясковай лаўцы, як ні круці, – красамоўныя пасланцы "русского мира".

А той "мир" – як вір: толькі дай волю – падмые тупкі бераг, зацягне ў сваё прадонне ўсе "шэсць губерняў" і нават не булькне.

У СУСЕДЗЯЎ

# 1092 еўра – сярэдні заробак

Галоўная статыстычная ўправа Польшчы паведаміла, што ў маі сярэдні заробак (брута) склаў 4696 злотых 59 грошаў (1092 еўра).

Звесткі тычацца сектара прадпрыемстваў, фірм, дзе налічваецца больш за 9 працуючых.

ЗАКУЛИСЬЕ

# «Разные политические взгляды не мешают нам выпить по бокалу вина...»

*Небывалый резонанс в социальных сетях вызвало совместное фото председателя Белорусской партии левых «Справедливый мир» Сергея Калякина и одного из лидеров оргкомитета по созданию партии «Белорусская христианская демократия» Марины Хомич.*

Сергей Иванович и Марина сфотографировались в непринужденной обстановке на приеме, который по случаю дня рождения Королевы ежегодно устраивает Посольство Великобритании в Беларуси. *«День рождения Королевы объединяет всех!»* – подписала снимок Марина Хомич.

Удивительно, но факт: под красивой позитивной фотографией стали писать не комплименты, а упреки из серии: «Как она могла быть рядом с коммунистом!..»

Вот лишь некоторые из откликов.



*«Коммунист празднует день рождения Королевы! Ну абсурд же!»*

*«А как допьете то, что в бокалах, поедете защищать Куропаты?»*

*«Калякин в обнимку с пронациональными христианскими демократами...»*

*«Это не дружеская вечеринка и не корпоратив, не стоит так прижиматься к малознакомому мужчине!»*

**Марина Хомич** даже устала отвечать критикам: мол, это просто фото, нет в нем ничего скандального и криминального!

**Сергей Калякин**, как оказалось, не удивлен негативной реакцией публики.

*«У меня такое впечатление, что те, кто оставлял негативные отзывы под этим фото, в чем-то несчастные, закомплексованные люди,* – сказал «Народной Воле» Сергей Иванович. – *Они ищут какой-то глубокий политический подтекст в простой человеческой фотографии. Мне самому это фото понравилось: живое, светлое. Поэтому мне трудно комментировать весь этот негатив...*

*Может, это все от зависти, от неустроенности в жизни...*

*Я считаю неправильным все сводить лишь к политике и отношения в жизни строить только исходя из того, какие политические взгляды исповедует тот или иной человек. Если чьи-то политические взгляды не совпадают с твоими, человека что, убить, изолировать? Такой радикализм ни к чему хорошему не приведет.*

*Почитаешь некоторые комментарии и думаешь: если такие люди придут к власти, видимо, будет в стране только их идеология считаться правильной. А остальных если не расстреляют, то в какие-то резервации загонят. И это печально...*

*Комментарии в соцсетях отражают очень малую часть настроений и мнений в обществе. К счастью, в обычной жизни народ более простой и толерантный во всех смыслах этого слова. И лично мне это придает оптимизма».*

Сергей Калякин прокомментировал и едкое замечание о том, что, дескать, как может настоящий коммунист праздновать день рождения Королевы Елизаветы.

*«Коммунисты были на этом приеме, потому что это государственный праздник Великобритании, великой страны, с которой у нас установлены дипломатические отношения,* – объясняет политик свою позицию. – *Нас пригласили, и мы пришли в знак уважения. А если бы меня лично Королева к себе на праздник за стол пригласила – я обязательно пошел бы! Потому что не вижу в этом никакой измены своим убеждениям и принципам. Надо разделять чисто человеческие вещи и политику.*

*Как правило, главы государств поздравляют друг друга с днями рождения, государственными праздниками. Но это не значит, что у них личные отношения хорошие! Просто это элементарная вежливость, правила хорошего тона!»*

Кстати, не так давно бурно обсуждали совместное фото председателя правозащитно-просветительского общественного объединения «Движение «За Свободу» **Юрия Губаревича** и председателя Центризбиркома **Лидии Ермошиной**.

Калякин отлично помнит эту историю и тоже посмеивается.

*«Это все из той же оперы!* – говорит политик. – *Наверное, люди как-то очень по-своему понимают, что такое политика, принципиальность, отстаивание своих взглядов и убеждений.*

*За моей фотографией с Мариной нет никакой политики. Мы с ней хорошие знакомые, причем я отлично знаю ее взгляды, а она – мои. И это не мешает нам общаться чисто по-человечески. Некоторые особенно злые комментаторы говорят, что стремятся в Европейский Союз, разделяют демократические ценности. Но европейское общество – оно как раз очень толерантно в этом плане. Политики в Европарламенте придерживаются разных политических взглядов, но в то же время они совершенно нормально, без надрыва и скандалов, общаются друг с другом. Здороваются друг с другом, обедают даже! Но при этом они могут самым жесточайшим и принципиальнейшим образом отстаивать свои позиции и взгляды на принятие законов и решений.*

*Я больше скажу: знаю семьи, где жена и муж исповедуют кардинально противоположные политические взгляды! Например, жена исповедует крайние взгляды БНФ, а муж – сторонник коммунистической партии. И семья не рушится, и детей воспитывают, и любят друг друга. Переносить политику на бытовые отношения – это ненормально, на мой взгляд.*

*Поэтому тот факт, что мы с Мариной Хомич придерживаемся разных взглядов на жизнь, не мешает нам выпить по бокалу вина и сделать совместное фото. Как говорится, не надо путать боб с горохом...»*

**Марина КОКТЫШ.**

УСМЕШКА МАСТАКА

# Як бы яшчэ нябожчыкаў прымусіць даваць хабар?

Дырэктара Гарадскога клінічнага патолагаанатамічнага бюро горада Мінска, галоўнага патолагаанатама сталіцы Аркадзія Пучкова затрымлівалі супрацоўнікі не КДБ, а міліцыі.

Адбылося гэта падчас атрымання хабару ў памеры 5245 рублёў і 300 долараў ЗША ад прадстаўніка камерцыйнай структуры за спрыяльнае вырашэнне пытанняў аб заключэнні дагавораў на пастаўку рытуальных прылад для крамы, размешчанай на тэрыторыі арганізацыі, і своечасовай аплаце пастаўленага тавару. Стала вядома, што хабарніцтвам начальнік бюро займаўся ўжо больш за дзесяць гадоў. Інкрымінаваная сума – не менш за 200 тысяч долараў ЗША.

Таксама днямі стала вядома, што Следчы камітэт скончыў расследаванне крымінальнай справы былога намесніка галоўнага ўрача па тэхніцы Мінскай абласной дзіцячай клінічнай бальніцы, якога затрымалі ў студзені 2018 года падчас атрымання хабару. Следствам сабраны доказы 24 фактаў перадачы службовай асобе грашовых сродкаў на агульную суму больш за 46 тысяч рублёў.




Малюнак Ірыны ПУСТАВАЛАВАЙ.

ЗАЯВА

# Амаральна ладзіць скокі побач з крыжамі

*У сувязі з сітуацыяй будаўніцтва і дзейнасці рэстаранна-забаўляльнага комплексу ў ахоўнай зоне мемарыяльнага ўрочышча Курапаты*

Мы, прадстаўнікі грамадзянскай супольнасці, выказваем глыбокую заклапочанасць сітуацыяй з будаўніцтвам і пачаткам працы рэстаранна-забаўляльнага комплексу "Паедзем паядзім" побач з вядомымі ва ўсім свеце Курапатамі – месцам згубы ахвяр палітычных рэпрэсій 1930–1940-х гадоў.

У кастрычніку 2012 г. намеснікам міністра культуры Рэспублікі Беларусь В.І.Курашам было вынесена прадпісанне аб прыпыненні кампаніяй "БелРэстІнвест" будаўніцтва аб'екта прыдарожнага сэрвісу да ўзгаднення з Міністэрствам культуры адпаведнай дакументацыі. Адной з прычын прыпынення будаўніцтва стаў той факт, што некаторыя пабудаваныя аб'екты знаходзіліся на тэрыторыі ахоўнай зоны "Курапаты", межы якой былі ўстаноўлены пастановай №15 Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 12 мая 2004 года.

У той жа час Генеральная пракуратура ў вынесеным прадпісанні прыйшла да высноў аб самавольным характары будаўніцтва гэтага аб'екта і даручыла Мінаблвыканкаму і Мінскаму райвыканкаму ліквідаваць дапушчаныя парушэнні, прыцягнуць шэраг службовых асоб да дысцыплінарнай адказнасці. Тым не менш у 2014 г. па незразумелай прычыне ў пастанову Міністэрства культуры аб вызначэнні межаў ахоўнай зоны месца масавых пахаванняў ахвяр палітычных рэпрэсій "Курапаты" былі ўнесены змены, якія скарацілі межы ахоўнай зоны такім чынам, каб у іх не патрапілі будынкі самавольна пабудаванага рэстарана. Такім чынам, асобы, адказныя за парушэнні заканадаўства Рэспублікі Беларусь, не былі прыцягнуты да адказнасці, а незаконны рэстаранна-забаўляльны комплекс атрымаў дазвол на ажыццяўленне дзейнасці.

Урочышча Курапаты мае вялікае сімвалічнае і гістарычнае значэнне для г.Мінска і ўсёй Беларусі як месца памяці ахвяр масавых палітычных рэпрэсій 1937–1940-х гадоў. Курапаты былі месцам расстрэлаў і пахавання дзясяткаў тысяч жыхароў Беларусі, рэпрэсаваных органамі НКУС. Факт незаконнага будаўніцтва ў ахоўнай зоне ўрочышча Курапаты выклікаў рэзка негатыўную рэакцыю шырокай грамадскасці г.Мінска і ў цэлым Рэспублікі Беларусь. Грамадскія актывісты, абураныя незаконнасцю і амаральнасцю з'яўлення рэстаранна-забаўляльнага комплексу ў Курапатах, блакіруюць яго дзейнасць.

Мы заклікаем адказных асоб Генеральнай пракуратуры, Міністэрства культуры, Мінгарвыканкама і Мінаблвыканкама прынцыпова паставіцца да сітуацыі, што ўзнікла, і зрабіць адпаведныя захады, у прыватнасці:

– прыпыніць дзейнасць рэстаранна-забаўляльнага комплексу "Паедзем паядзім" да высвятлення дадатковых абставін законнасці будаўніцтва гэтага аб'екта;

– правесці пракурорскую праверку законнасці і абгрунтаванасці ўнясення змен у пастанову Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 12.05.2004 № 15 і змянення межаў ахоўнай зоны месцаў масавых пахаванняў ахвяр палітычных рэпрэсій "Курапаты", а таксама іншых рашэнняў дзяржаўных органаў аб узгадненні далейшага будаўніцтва рэстарана "Паедзем паядзім";

– адмовіцца ад практыкі прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці грамадскіх актывістаў, якія абараняюць ахоўную зону Курапатаў.

**Улад ВЯЛІЧКА**
**Алесь БЯЛЯЦКІ**
**Раіса МІХАЙЛОЎСКАЯ**
**Алена ТАНКАЧОВА**
**Вольга СМАЛЯНКА**
**Галіна ЧАРАПОК**
**Юлія МІЦКЕВІЧ**
**Аксана ШЭЛЕСТ**
**Таццяна РЭВЯКА**
**Таццяна ЗЯЛКО**
**Ігар РЫНКЕВІЧ**
**Андрэй ЯГОРАЎ**
**Уладзімір ЗУЕЎ**
**Сяргей ШАЎЦОЎ**
**Любоў УЛАДЫКОЎСКАЯ**
**Сяргей АНТУСЕВІЧ**
**Юрый ГУБАРЭВІЧ**
**Дзмітрый МАРКУШЭЎСКІ**
**Міраслаў КОБАСА**
**Ігар ЛЕДНІК**
**Святлана КАРАЛЁВА**
**Вольга ХВОІН**
**Уладзімір КАРАГІН**
**Пётр КУЗНЯЦОЎ**
**Аляксандр ЗЯЛКО**
**Саша КУЗЬМІЧ**
**Дзмітрый КАРПІЕВІЧ**
**Зміцер ГЕРЫЛОВІЧ**
**Станіслава ГУСАКОВА**
**Крысціна РЫХТЭР**
**Мікалай КВАНТАЛІЯНІ**
**Леанід СКАРАБАГАТЫ**
**Міхаіл ДАРАШЭВІЧ**
**Алег ВОЛЧАК**
**Аляксандр КАРАЛЕВІЧ**

ДЫПКУР'ЕР

# Па-беларуску!

Нядаўна прызначаны амбасадар Польшчы ў Беларусі **Артур Міхальскі** выступіў з вітальным словам на традыцыйнай міжнароднай навуковай канферэнцыі «Беларуска-польскія моўныя, літаратурныя, гістарычныя і культурныя сувязі», якая гэтымі днямі праходзіць у Мінску. Выступаў Міхальскі па-беларуску. *«Мне надзвычай прыемна быць сярод людзей, якія любяць і шануюць сваю мову, культуру, якія памятаюць наша агульнае мінулае. Быць сярод тых, хто хоча, каб палякі і беларусы жылі ў атмасферы сяброўства і добрасуседства»,* – сказаў польскі амбасадар.

Чакаецца, што на пачатку наступнага тыдня Артур Міхальскі ўручыць даверчую грамату Аляксандру Лукашэнку.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**



**На фота: Артур Міхальскі і першы польскі амбасадар у незалежнай Беларусі Эльжбета Смулкова.**

ТАМ, У НИХ...

# В ШАГЕ ОТ ДЕФОЛТА

*Беларусь надеется, что Венесуэла рассчитается с долгами перед нашими предприятиями. В то же время Венесуэла ставит новые антирекорды. Один доллар США стоит уже 2 миллиона боливаров, а инфляция превысила 24.600%. Независимые эксперты ожидают лишь обострения кризиса и пророчат стране дефолт уже в этом году.*

По данным портала Dolar Today, отслеживающего котировки на нелегальном рынке, доллар на черном рынке Каракаса торгуется на уровне 2.291.385 боливаров. Обесценивание боливара произошло на фоне стремительного роста инфляции в Венесуэле. Инфляция в стране в мае в годовом исчислении составила 24.600%, сообщила Национальная ассамблея.

Только в мае инфляция в стране составила 110%. Порог гиперинфляции, когда валюта обесценивается за месяц на 50%, Венесуэла переступила еще в конце прошлого года.

В стране уже давно не хватает товаров первой необходимости. Венесуэла испытывает острый дефицит продуктов питания, гигиенических товаров, медикаментов. По данным The Wall Street Journal, 80% основных продуктов невозможно найти даже в столице – Каракасе.

Метрополитен Каракаса с середины мая бесплатно перевозит пассажиров. На такой шаг, по данным Reuters, руководство метро в столице Венесуэлы было вынуждено пойти из-за того, что закончилась бумага, на которой печатались билеты.

Источники в руководстве метро Каракаса рассказали агентству, что бумага для билетов закупалась за рубежом. Однако уже более года правительство не выделяло валюту на эти цели, и запасы бумаги подошли к концу.

Из Венесуэлы продолжается активная миграция населения. Фелипе Муньос, назначенный властями Колумбии администратором границы с Венесуэлой, на днях сообщил, что, по его данным, более миллиона человек перебрались из Венесуэлы в Колумбию за последние 15 месяцев. По его данным, примерно 250 тысяч – это вернувшиеся на родину колумбийцы, а 819 тысяч – венесуэльцы, которые собираются остаться в Колумбии на постоянной основе.

По оценке Агентства ООН по делам беженцев, Венесуэлу только к концу прошлого года покинули более 1,5 миллиона человек. Кроме Колумбии беженцы едут в Перу, где находятся как минимум 300 тысяч венесуэльцев, и в Чили – более 160 тысяч.

При этом власти Венесуэлы продолжают упорно отрицать наличие в стране гуманитарной катастрофы.

Переизбранный недавно на пост президента Венесуэлы Николас Мадуро пообещал стране скорое экономическое процветание. Но почти одновременно с празднованием 22 мая победы Николаса Мадуро на выборах США объявили о новых санкциях в отношении Венесуэлы. Американским гражданам и юрлицам запрещены любые сделки с госдолгом Венесуэлы, а также долгом национальной нефтедобывающей корпорации PDVSA, уже полгода, по сути, находящейся в состоянии дефолта.

Кроме того, США запретили покупку у Венесуэлы любых активов. Американские санкции вводят запрет на использование в качестве залога долговых обязательств Венесуэлы и доли в любых компаниях, в которых государство владеет более 50% акций.

Как считает американский Минфин, эти меры лишают возможности Мадуро продавать госактивы для получения валюты и последующей оплаты импорта.

Новые санкции США в отношении нефтяной отрасли Венесуэлы ограничили там добычу, отмечалось в статье The Wall Street Journal. Так, Венесуэла, страна с крупнейшими в мире запасами нефти, переживает острейший нефтяной кризис. Согласно статистическому обзору мировой энергетики от BP, доказанные запасы нефти в Венесуэле достигают 303,2 миллиарда баррелей, или 17,9% от общемировых. На втором месте – Саудовская Аравия с запасами в 266,2 миллиарда баррелей. При этом королевство добывает примерно на 8 миллионов баррелей в сутки больше, чем латиноамериканское государство, где добыча упала до минимума за последние 30 лет из-за неэффективного управления отраслью и экономического кризиса.

В Венесуэле добыча нефти снизилась в мае на 50 тысяч баррелей по отношению к апрелю – до 1,36 миллиона баррелей, сообщило на днях Международное энергетическое агентство (МЭА).

При этом эксперты ранее прогнозировали, что с учетом последних новостей и санкций добыча уже в середине этого года упадет до 1 млн баррелей в сутки.

Согласно подсчетам агентства Bloomberg, формируемым на основе прогноза инфляции и безработицы на будущий год, Венесуэла является самой «несчастной» экономикой мира на протяжении вот уже четырех лет подряд. Индекс «несчастья» Венесуэлы равен 1872 пунктам, то есть в 2018 году ситуация в Венесуэле станет хуже как минимум в три раза (в 2017 году Венесуэла набрала 499,7 пункта).

Уровень безработицы в Венесуэле уже превысил 20%, резко выросла преступность.

Сейчас минимальная зарплата в Венесуэле составляет 2,5 миллиона боливаров, чего не хватит, например, на покупку трех килограммов мяса в месяц. Курс доллара растет космическими темпами: в 2013 году доллар можно было купить за 17 боливаров, в 2016-м – за миллион боливаров.

В ноябре прошлого года Международное рейтинговое агентство Standard & Poor's ухудшило рейтинг Венесуэлы в иностранной валюте до уровня SD. Тогда агентство зафиксировало в стране так называемый «выборочный дефолт», означающий, что государство не смогло осуществить выплаты по гособондам.

Другое рейтинговое агентство «большой тройки» – Fitch – понизило суверенный рейтинг страны до отметки C». Это означает высокий риск невыполнения государством своих долговых обязательств. «С учетом платежей, которые ранее не были сделаны по суверенным облигациям, относящимся к тридцатидневному льготному периоду, Fitch считает, что это делает долговой дефолт весьма вероятным», – говорится в сообщении агентства.

Межамериканский банк развития (МБР) недавно объявил о приостановке выдачи кредитов Венесуэле в связи с невыплатой Каракасом 88,3 миллиона долларов. Общий объем долга Боливарианской Республики перед МБР составляет 2,01 миллиарда долларов. В целом объем внешнего долга Венесуэлы оценивается в 132,15 миллиарда долларов.

Ситуация с госдолгом неминуемо ухудшится и, вероятнее всего, дойдет до дефолта, полагают эксперты.




**Венесуэльцы ходят за покупками с сумками, рюкзаками и баулами, набитыми обесцененными боливарами.**

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ



# Мір – цыганская сталіца

Беларускае мястэчка Мір шырокую вядомасць у Еўропе і свеце набыло найперш сваім замкам – выдатным помнікам абарончага дойлідства XVI стагоддзя. Але за смугой часу ці не зусім забылася, што Мір быў і сапраўднай цыганскай сталіцай усяго Вялікага Княства Літоўскага. Тут праводзіліся выбары караля ўсіх цыганоў, тут ён жыў, тут была яго рэзідэнцыя.

Адкуль жа і як з'явіліся цыганы на Беларусі? Хоць іхняя гісторыя ахінута вэлюмам таямнічасці і загадкавасці, аднак захаваліся звесткі, што гэтая старажытная індыйская каста была самай непаважанай і гнанай. Калі на пачатку XV стагоддзя іх хацелі змусіць да ісламу, цыганы ўцяклі з Індыі спачатку ў Аравію, пасля ў Егіпет, адтуль у Турцыю. Затым яны з'явіліся ў Малдавіі, Галіцыі, Польшчы. А з Польшчы ўжо трапілі і на беларускія землі. Тут прынялі іх сапраўды шчыра, проста-такі гасцінна. Калі ў іншых краінах цыганоў цкавалі, даймалі непавагай, нават забівалі, то ў Вялікім Княстве Літоўскім падобнага практычна не было. Хоць, вядома, гэтыя няўрымслівыя дзеці ветру не былі цішэй вады і ніжэй травы.

Самым першым дакументам, які пісьмова засведчыў побыт цыганоў на беларускіх землях, з'яўляецца прывілей вялікага князя літоўскага Аляксандра Казіміравіча ад 25 мая 1501 года, які захоўваўся ў Нясвіжскім архіве князёў Радзівілаў. Прывілей зацвярджаў на пасадзе старшага войта, па-сённяшняму – барона, Васіля і надаваў яму "моц і права судзіць цыганоў і разбіраць усялякія спрэчкі паміж імі": "Войт Васіль і яго цыганы ва ўсіх землях нашых Вялікага Княства Літоўскага і ўя валасцях павінны мець поўную свабоду паводле даўных правоў, звычаяў і даўных княскіх лістоў". Спасылка на "даўныя правы" і "даўныя княскія лісты" сведчыць, што цыганы і да гэтага былі звязаны з беларускімі землямі і мелі тут добрае спрыянне. Яны не толькі вандравалі па дарогах Вялікага Княства, часта чынячы шкоду ўладальнікам коней, а і стала асядалі на працу.

Аднак з сярэдзіны XVI стагоддзя адносіны да гэтых вандроўнікаў змяніліся ў Каралеўстве Польскім, што мела ўплыў і на канфедэратыўныя беларускія землі. Нават у Літоўскім Статуце з'явіўся запіс, паводле якога цыганы выганяліся з ВКЛ. Ды, відаць, і раней законы лацвей пісаліся, чым выконваліся. Таму ўжо ў наступным стагоддзі цыганы трапілі пад абарону беларускіх паноў. Самым жа спрыяльным сталася для іх XVIII стагоддзе. У гэты час цыганы стала атабарыліся і ў Міры, які належаў нясвіжскім Радзівілам. Княжыў тады Караль Станіслаў Радзівіл. Нейкі час ён нават жыў у Мірскім замку. Гэты дзівакаваты князь, празваны Пане Каханку, наладжваў тут шумныя балі, гулянкі, меў асаблівае стаўленне да цыганоў, захапляўся іхнімі звычаямі, усяляк падтрымліваў іх.

У знак асаблівай пачцівасці да чорнавалосых і смуглатвары дзяцей ветру Пане Каханку ўвёў тытул цыганскага караля, надзяліў яго дадатковымі правамі. Караля выбіралі з багатых і статных цыганоў на Мірскім полі. На гэты час сюды з'язджаліся табары з усяго Вялікага Княства Літоўскага. Нававыбранага вярхоўнага кіраўніка тройчы з радаснымі воклічамі падымалі на руках угару, засыпалі розными падарункамі. Першацыган меў вялікую ўладу над сваімі суродзічамі, мог караць іх і мілаваць.

Калі ў Польшчы выбарныя цыганскія кіраўнікі атрымлівалі пацвярджэнне сваёй улады з каралеўскай канцылярыі, то ў ВКЛ на пасаду іх узводзілі Радзівілы, што сведчыла пра высокі дзяржаўны статус магнатаў. Згодна з гэтай традыцыяй, Пане Каханку сваёй граматай ад 22 ліпеня 1778 года зацвердзіў каралём цыганоў у Міры мешчаніна Яна Марцінкевіча, які стаўся самай знанай і каларытнай асобай.

На манер свайго апекуна і дабрадзея Караля Радзівіла Пане Каханку цыганскі начальнік Ян Марцінкевіч любіў праявіць уладу, паказаць сваю каралеўскую мосць. Як сапраўдны кароль, ён збудаваў у Міры прыгожы палац, дзе жыў ён. Сваю ж рэзідэнцыю цыганскія бяседы сюды прыязджалі знаныя польскія асобы, пашаноўныя госці, Радзівілы. За 12 гадоў кіравання Ян Марцінкевіч добра ўславіўся сваімі дзівацтвамі. Пры ім цыганская сталіца не раз звінела вясёлымі песнямі, шумела пышнымі святамі і відовішчамі.

Як сведчыць беларускі этнограф Д.Даўгяла, апранаўся кароль модна, замест шаблі насіў бізун. "Калі трэба было яму ехаць, то звычайна ўперадзе ехалі дзесяць спевакоў з кіраўніком (паўкерам), які біў рэменем па кацялках. За спевакамі ехаў сам кароль на добрым кані, вельмі хораша прыбраным. Ззаду за ім – сем цыганоў у рознакаляровым убранні. За імі вялі некалькі троек парожніх коней. Затым у старасвецкім рыдване, які быў вымаляваны ў пунсовы колер, ехала каралева на васьмёрцы коней".

Іншыя сцвярджаюць, што кароль любіў катацца ў пазалочанай карэце, запрэжаной дванаццаццю конямі. Суправаджаў яе вялікі і размаіты натоўп рознага службовага караліо люду, коннікі. Гэткую ж світу меў ён і падчас пешых праходак. А сустрэчныя цыганы мусілі ў пакорлівай схіленасці вітаць свайго Бацю Яна.

Але сярод цыганскіх іерархаў сустракаліся і больш жорсткія. Апавядаюць, што ў Лідскім павеце цыганы мусілі нават узбунтавацца супраць тамашняга свайго верхаводы Якуба Знамяроўскага: так дапёк ён сваім самадурствам, што не вытрымаць. Было гэта напрыканцы XVIII стагоддзя. Гарачы і бунтоўны цыганскі народ запіхнуў Якуба ў мех, падвесіў важкі груз да бэлькі ў хаце і добра вымеціў галоўнага цыгана – білі не шкадуючы. Аднак жа павагу да ўлады не страцілі. Адвёўшы душу, абдарылі першацыгана падарункамі і правялі дадому. Кажуць, на начальніка гэта паўплывала станоўча.

Ян Марцінкевіч быў апошнім мірскім каралём. Пасля смерці Яна цыганскі трон атрымаў яго сын, які неўзабаве кінуў-рынуў усё набытае ў Міры і вольным ветрам разам са сваімі суродзічамі паляцеў у Турцыю. Тыя ж, што засталіся, стваралі тут свае суконныя, ткацкія і скураныя мануфактуры, якія славіліся на ўвесь край. Цыганскае палатно вылучалася добрай якасцю і носкасцю. У многіх міран доўга захоўвалася гэтае ткацтва. З яго нават шылі царкоўныя шаты. А пра не вельмі сумленных людзей хадзіла прымаўка: "Майстар з Міра, што цяў, то й дзіра". Багаты рыштунак з палаца Яна Марцінкевіча яшчэ на пачатку XX стагоддзя захоўваўся ў Мірскім замку.

З лёгкай рукі цыганоў Мір праславіўся сваімі шматлюднымі конскімі базарамі. Людзі тады казалі, што з-за коней і цыганоў свету божага не відаць. Часта купля-продаж абрастала такімі пацешнымі абставінамі, што нагадвала дзівосную забаву. Сапраўднымі майстрамі выявілі сябе аселыя цыганы ў гадоўлі мядзведзяў. Нават Радзівілы бралі ў іх вучняў для знакамітай Смаргонскай мядзведжай акадэміі, дзе гэтых дужых звяроў адмысловa вучылі розным штукарствам. А пасля цыганы станавіліся іхнімі павадырамі па дарогах Еўропы. Займаліся цыганы кавальствам, слясарнай справай, выразалі з дрэва. Яшчэ мо і сёння ў жыхароў Міра захоўваюцца іхнія драўляныя сальніцы, бочкі, дзежкі, міскі, дзіцячыя цацкі і іншыя вырабы.

Аднак, вядома, неад'емнай рысай цыганскага побыту былі гандаль, карты, гаданні, песні, скокі. На ўсё былі здатныя прыхільнікі вясёлага жыцця. Калі часам у цыгана пыталіся "Якой ты веры?", ён адказваў: "За грошы – якой хочаш, бацю!"

Пазней расійская імператрыца Кацярына Вялікая выдала ўказы, згодна з якімі цыганы мусілі прапісацца ў гарадах і адмовіцца ад вандровак. Шмат хто пайшоў тады ў купецтва, дасягнуў там значных поспехаў. А большасць бедных і безмаёмных цыганоў былі ператорваны ў казённых сялян.

Як зоркі і месяц, шапаткая цішыня і мурожны пах з'яўляюцца вызначальнымі прыкметамі сапраўднай летняй ночы, так кібітка, песня і шацёр дагэтуль служаць адметнымі асаблівасцямі сапраўднай цыганскай вольнасці. І калі пачуеце раптам прывольны і распеўны, гарачы і тэмпераментны цыганскі напеў, згадайце гэтых няўрымслівых адвечных падарожных, якіх здавён і надоўга лёс звязаў з беларускай зямлёй.

ПУЛЬС

## Более 68 миллионов беженцев

В 2017 году более 68 миллионов человек по всему миру из-за военных конфликтов, актов насилия и гонений были вынуждены покинуть свои дома. Эти данные обнародовали эксперты ООН. Самую большую в мире группу вынужденных переселенцев (более 12,6 миллиона человек) составляют сирийцы. Как отмечается в докладе, среди стран, принимающих больше всего беженцев, только одно европейское государство – Германия – вошло в первую десятку. Лидером в этом отношении является Турция.

## Юлия Тимошенко идет в президенты

Об этом лидер партии «Батькивщина» и глава одноименной фракции в Верховной Раде заявила недавно, отвечая на вопрос корреспондента ТАСС в ходе видеоконференции в Facebook.

Очередные выборы президента Украины должны состояться 31 марта 2019 года. Юлия Тимошенко по состоянию на май текущего года остается лидером среди потенциальных претендентов на пост главы государства. По данным опроса общественного мнения, проведенного Украинским центром экономических и политических исследований имени Александра Разумкова, за лидера "Батькивщины" готовы проголосовать 13,3% избирателей. Вторую строчку занимает руководитель партии «Гражданская позиция» Анатолий Гриценко (9,4%), третью – глава фракции «Оппозиционный блок» в Верховной Раде Юрий Бойко (8,4%). Действующий президент Петр Порошенко второй месяц подряд не попадает в тройку лидеров.

## Отравились пестицидами?

Более ста человек, в том числе одна 14-летняя девочка, попали в больницу в Азербайджане с симптомами отравления, после того как вернулись с хлопкового поля. Это уже третий случай массового отравления хлопкоробов с начала июня.

Причиной отравления, вероятно, стали используемые на полях пестициды, однако официально власти об этом не заявляют.

Чуть ранее в азербайджанском районе Имишли пострадали более ста человек – предположительно от химикатов, распыленных на хлопковом поле. Всего было госпитализировано 110 человек.

ЖИТЕЙСКАЯ ИСТОРИЯ

# Бразильянка стала полицейским и отомстила за изнасилования в детстве

Бразильянке Табате было всего девять лет, когда Фабрицио появился в ее жизни. Ему было 39, он был женат, а главное – был «другом семьи», которого не могли ни в чем заподозрить. Он же более двух лет мучил и насиловал девочку.

В декабре 2016 года Табата и Фабрицио (имена героев изменены) встретились снова – 12 лет спустя. Но на этот раз он был в наручниках, а Табата крепко держала его одной рукой. В другой руке был дробовик.

Она отвела его в камеру, заперла решетку и ушла с огромным облегчением, почувствовав, что все наконец закончилось. Круг замкнулся.

«Рассказать об этом преступлении и пережить все заново – помогает залечить раны», – сказала Табата Бразильской службе Би-Би-Си.

### «Он говорил: «Совсем чуть-чуть, совсем немного»

Фабрицио был фотографом, любил снимать на природе. Он был разговорчивым и дружелюбным. Фабрицио с женой и семья Табаты начали вместе путешествовать с палатками по берегам реки Уругвай на юге Бразилии, недалеко от того места, где жили.

«Очень скоро он стал приставать ко мне, – говорит Табата. – Он подходил ко мне вплотную и начинал трогать. Я не понимала, что происходит. Мне было не по себе, но я была слишком маленькой и не понимала, что это преступление».

Табата говорит, что Фабрицио насиловал ее, когда они оказывались в глубине леса, далеко от всех остальных, или когда они купались в реке.

«Как-то раз меня послали вместе с ним за водой, – вспоминает она. – Он начал меня лапать, но у меня получилось вырваться и убежать вперед. Родители даже не спросили, почему я вернулась первой. Им даже не пришло в голову, что он мог ко мне приставать, так они ему доверяли».

Табата много раз хотела рассказать родителям правду, но сдерживалась.

Насилие продолжалось два с половиной года.

Со временем мужчина изучил привычки семьи Табаты и стал пользоваться этим знанием. Он знал, что у Табаты была старшая сестра, которая училась на педагога, что их мать по вечерам работала, а отец играл в футбол. В это время он и появлялся в доме.

«Он говорил: «Совсем чуть-чуть, совсем немного». И никогда не бил меня, а очень крепко держал и заставлял подчиняться», – говорит она. Когда девочке исполнилось 11, она начала реагировать со злостью: кричать и сопротивляться.

Табата собиралась рассказать матери, но решила повременить – мама заболела. Примерно в это время ее отца уличили в романе с женой Фабрицио, и старые друзья стали врагами.

### Как раскрылась правда

Следующие 10 лет Табата пыталась забыть все, что с ней произошло, но воспоминания не уходили. Чтобы выговориться, она начала делиться своим секретом со школьными друзьями.

Только когда ей исполнилось 16, она наконец рассказала обо всем матери. Та сказала, что Фабрицио приставал и к другим девочкам. Табата разозлилась: она думала, что была единственной жертвой, а вышло, что мужчина сломал жизнь не только ей.

Рассказала она обо всем и полиции, однако дело завели далеко не сразу. Даже шесть лет спустя оно по-прежнему оставалось на рассмотрении в прокуратуре.

Табата уже не надеялась когда-нибудь увидеть Фабрицио за решеткой, но ее отец вспомнил, что от рук фотографа пострадала еще одна девочка. Табата пошла к ее семье, чтобы поговорить с ней. Показания девочки позволили возобновить дело.

Фабрицио утверждал, что Табата все сочинила ради мести за обиженного отца, однако суд не встал на его сторону. Мужчину приговорили к семи с половиной годам тюрьмы, но он оставался на свободе, пока суд рассматривал апелляцию.

### Круг замкнулся

В 24 года Табата окончила полицейскую академию. В полицию она пошла в том числе из-за пережитого в детстве насилия.

В декабре 2016 года поступил особенный вызов – суд вынес отрицательное решение по апелляции Фабрицио. Он скрывался от правосудия на ранчо, на берегу реки, недалеко от города.

«Арестовал его мой коллега, но я хотела лично закрыть за ним дверь камеры, – говорит Табата. – Я хотела, чтобы круг замкнулся».

Фабрицио освободили меньше чем через год – за хорошее поведение и добросовестную работу в заключении.

УСПАМІНЫ

# АКУПАЦЫЯ

(чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.)

Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук



*Прысвячаю землякам-магілянам часоў вайны і нямецкай акупацыі.*

*(Працяг. Пачатак у №№31–49.)*

Што рабілася ў Магільным падчас карніцкай аперацыі, пра якую я расказаў у мінулым нумары "Народнай Волі", ведалі і нашы людзі ў зямлянках, бо камусьці ўсё ж удалося вырвацца з таго пекла і расказаць пра ўсё бачанае. Такім шчасліўчыкам быў і мой сусед Толя Дзесюкевіч. Перад самым уварваннем немцаў пакінуў усіх нас хлопцаў, за якіх быў старэйшы на два-тры гады, і ў адзіночку рвануў наўцёкі ўздоўж левага берага Нёмана. Маласнежная зіма дазволіла на вялікай хуткасці ўцякаць ад бяды. На шчасце Толі, немцы ўшчыльную да Нёмана не набліжаліся.

Журботныя весткі пра Магільнае атрымлівалі людзі ў зямлянках і ад партызанаў, якія пільна сачылі за падзеямі, стараліся не дапусціць ніякага нападу на немцаў, бо ведалі, што за аднаго іх забітага спаляць усё мястэчка разам з яго жыхарамі. Узброенага канфлікту не адбылося, што і выратавала ўсім жыццё.

Не спадзеючыся, што ў той хатцы нешта добрае, акрамя смерці, чакае мяне, я вырашыў лепш за ўсё заснуць на печы, тым больш што спаць моцна хацелася з-за перанесеных пабояў. І я заснуў, у той час як людзі лямантавалі, прасілі ў Бога паратунку. І вось адчуваю, што мяне нехта вельмі моцна раз за разам таўчэ ў спіну, прыгаворваючы:

– Лёня! Лёня! Немцы пакідаюць Магільнае! Нас на волю выпускаюць жывымі.

З такімі радаснымі словамі звярнулася да мяне ўсё тая ж бабка Зося. Расплюшчваю вочы і не веру: у хатцы, дзе перад маім сном так кішэла людзьмі, засталіся толькі лічаныя з іх. З бабкай Зосяй мы выйшлі апошнімі. Калі я ўзышоў на свой двор, убачыў, як трое немцаў, лупцуючы карову палкамі, выводзяць яе з хлява, каб прывязаць да воза, што стаяў на вуліцы ля хаты. Я адразу ў слёзы і на ламанай нямецкай мове гавару ім, што ў нас пяць малых дзяцей і нядаўна памёр тата. Мяне не паслухалі, і воз з прывязанай да яго каровай ад'ехаў ад нашай хаты. Такое ж адбывалася на многіх дварах.

Калі падводу з нашай кароўкай ужо перастаў бачыць, зайшоў на двор і моцна заплакаў. Але ў такім роспачным стане знаходзіўся нядоўга і сам сябе пачаў суцяшаць: "Чаго плакаць? Ты ж застаўся жывы, таму трэба радавацца, а не плакаць". Пазачыняўшы ўсе дзверы ў хлявах, брамку, пайшоў у хату, каб чаго-небудзь перакусіць. Згатаванай стравы не было ніякай, таму накінуўся на сала. Дзякаваць богу, рукі грабежнікаў не дацягнуліся да яго. Пасля ўсяго гэтага пайшоў да труны бабкі. Здзівіла, што ўсе свечкі, якія мы патушылі, убачыўшы немца на дварэ, згарэлі да канца. Каб не нарабіць пажару, немцы паставілі іх у шклянкі, слоікі, конаўкі. Вось, думаю, калі б і тыя, што забралі карову, убачылі ў труне бабку, мо не ўчынілі б такога грабежніцтва? Падчас такіх разважанняў нібыта нейкая патаемная сіла падштурхнула мяне падысці да акна і глянуць на вуліцу. Ужо добра сцямнела, але я змог разглядзець, што каля брамкі стаіць нейкая карова. Выйшаў на двор, адчыніў брамку і не паверыў убачанаму: стаіць наша карова з даўгаватым кавалкам прывязанай да рагоў вяроўкі. Я, шчаслівы малады гаспадар, з вялікай радасцю загнаў карову ў хлеў і накарміў. Дома не стаў начаваць, бо было досыць холадна. Пайшоў да бабкі Зосі, дзе ўжо было трое-чацвёра хлопцаў. Яна пачаставала гарачай бульбай з агуркамі і дала запіць жаданую страву малачком. Разбудзіла ўжо тады, як добра развіднела.

Знясіленыя за дзве ночы знаходжання ў зямлянках уцекачы адзін за адным вярталіся дамоў. Моцна стомленыя, прыцягнуліся і нашы. Васьмігадовы Генадзь з клункам за плячыма пяць кіламетраў праджгаў сам, а чатырохгадовага Толю папераменна неслі за плячыма мама і шаснаццацігадовая Ліда. Як толькі сустрэліся са мною ў двары – адразу ўсе ў слёзы. Не плакалі толькі я і Толя. Ён неяк з незвычайнай любатой пазіраў на мяне і цягнуўся на рукі. Я не адмовіў яму ў такім жаданні, хаця моцна хацелася адвесці маму ў хлеў, каб пахваліцца, што там карова. І такі час надышоў. Мама пачала здымаць з рагоў каровы вяроўку і са здзіўленнем сказала:

– Сынок! Вяроўка не парвалася ў гэтым месцы, а перарэзана чымсьці вострым.

Тое пацвердзіў і сусед дзядзька Адам. І тады лічыў, і сёння так думаю, што на немцаў пры гвалтоўным уводзе нашай каровы ўсё ж маглі паўздзейнічаць мае словы пра пяць малых дзяцей і адсутнасць у іх бацькі.

З-за таго наезду карнікаў на Магільнае бабка Магда двое лішніх сутак прабыла на гэтым свеце. На наступны ж дзень пахавалі яе на мясцовых могілках (магілка і па сёння захавалася дзякуючы клопатам унучкі Ліды і яе сына Мікалая). Нягледзячы на неспакойны час і на тое, што на дварэ яшчэ стаяла зіма, нямала людзей сабралася на пахаванне бабкі, бо яе моцна паважалі і свае, і чужыя. Не забыліся і пра жалобнае застолле.

***

Многіх, напэўна, зацікавіць, што гэта быў за хлопец, які выдаў мяне немцам? Гэта быў Грышка Туміловіч з Нясвіжскай вуліцы. Ён жыў далёка ад мяне, і мы ніколі не сябравалі, не вучыліся ў адным класе. У той злашчасны дзень ён выпадкова апынуўся каля нашай хаты, шукаючы паратунку ад немцаў. Калі па дарозе разам з немцам мы ўсе ішлі да прызначанага месца і Рома Туміловіч ціхенька папытаўся ў Грышкі, чаму ён выдаў Лёню, дык атрымаў такі кароценькі адказ:

– А ты што хацеў, каб нас пазабівалі, а ён застаўся жывы?

Хто-хто, а Грышка ні ў якім разе не павінен быў выдаваць мяне, бо ўсяго толькі за месяцы два да таго ў Лаўскім баі (3 снежня 1942 г.; Капыльскі раён) ад рук нямецкіх карнікаў загінуў яго старэйшы брат Іван. Грышка ж выдаў! Нулявая логіка. Пасля таго цяжкага для ўсяго Магільнага дня я вельмі рэдка сустракаўся з Грышкам, бо жылі далёка адзін ад аднаго. Тое ж можна сказаць і пра першы пасляакупацыйны год, а ўвосень 1945 года я паехаў вучыцца ў Мінск і ў Магільным з'яўляўся толькі на канікулы, а пасля заканчэння вучобы ледзь не дзесяць гадоў жыў па-за межамі Беларусі. Калі ў час адпачынку наведваў маму і мы з Грышкам трапялі насустрач адзін аднаму, віталіся, але рукі не падавалі. Часцей з Грышкам бачыўся тады, калі ён пабраўся шлюбам з настаўніцай Магільнянскай СШ і стаў жыць на Кавалёўскай вуліцы. Ён ніколі не хадзіў па вуліцы тым бокам, дзе стаяла наша хата. Ішоў процілеглым ад яе бокам, але, калі бачыў мяне на прызбе, заўсёды вітаўся. Вось наступствы таго здрадніцтва, сапраўдную прычыну якому немагчыма знайсці, мо хіба толькі з-за непаўналецця. Сур'ёзная крыўда на Грышку доўжылася ў мяне не больш за год-два. Затым яна канчаткова знікла. І калі Грышку наканавана жыць да ста гадоў, я дзвюма рукамі за гэта. Крыўду спішам на акупацыю і маладыя гады.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

ЮБІЛЕЙ

# Спартак МІРАНОВІЧ: «Не было часу разгарнуць падарункі…»

*Легендарнаму гандбольнаму трэнеру Спартаку Пятровічу Мірановічу споўнілася 80!*

З гэтай нагоды ў сталічным палацы спорту "Уруччa" прайшла ўрачыстасць. Павіншаваць славутага трэнера прыйшлі яго выхаванцы розных пакаленняў – Аляксандр Каршакевіч, Андрэй Барбашынскі, спартсмены з сённяшняга складу мінскага СКА…

Былі на ўрачыстасці і чыноўнікі – віцэ-прэзідэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэта **Сяргей Рэпкін**, старшыня Следчага камітэта Беларусі **Іван Наскевіч**, намеснік міністра абароны **Сяргей Патапенка** і іншыя.

"Народная Воля" патэлефанавала Спартаку Пятровічу на наступны дзень пасля таго віншавання.

– Як адсвяткавау? Дык яшчэ не скончылася святкаванне, – прызнаўся юбіляр. – Зараз знаходжуся ў заслужаным адпачынку, з'ехаў на дачу *(Спартак Міpановіч дагэтуль працуе з трэнерскімі кадрамі, якія рыхтуюцца да працы ў дзіцяча-юнацкай спартыўнай школе, створанай у структуры гандбольнага СКА. Дарэчы, школа носіць імя Мірановіча. – **Аўт.**)*. Зараз вось на прыродзе. Люблю свежае паветра. Грыбы-ягады люблю збіраць. Так што святкаваць працягну тут – пакуль госці не раз'едуцца.



Юбіляра віншуюць іграні залатога складу СКА: Канстанцін Шараварау, Міхаіл Якімовіч, Андрэй Барбашынскі і Аляксандр Каршакевіч.

**– Спартак Пятровіч, у юбіляраў звычайна прынята пытацца пра пражытае і перажитае… Часта азіраецеся назад?**

– Калі вы ведзяце да таго, ці хацеў бы я нешта змяніць у пражытым-перажытым, дык адкажу проста: жыццё – гэта не чарнавік, жыць трэба тут і зараз. А шкадаванні… Ну, безумоўна, ёсць. Вось толькі сэнсу шкадаваць пра штосьці няма – нічога ўжо не выправіць, ніводны прайграны матч не перайграць. Таму навошта гэтая філасофія? Узрост у мяне такі, што шкадаваць пра нешта ўжо не мае ніякага сэнсу.

**– А параду ад вас атрымаць можна? Што, на вашу думку, для чалавека галоўнае ў жыцці?**

– Сумленнасць і разуменне таго, што ўсе мы жывём адзін раз. А значыць, важна жыць так, каб потым не было сорамна, карацей, важна заставацца чалавекам, прыносіць карысць людзям і не здраджваць абранаму жыццёваму шляху.

**– На юбілейнай урачыстасці вам зрабілі шмат падарункаў. Якія з іх уразіў найбольш?**

– У мяне яшчэ не было часу іх усе разгарнуць і разгледзець. Усе, напрыклад, бачылі, што ад Міністэрства абароны я атрымаў аўтамат ППШ. Па-вайсковаму арыгінальна…

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

У ТЭМУ

## Мірановіч – на канвертах

У дзень юбілею Спартака Мірановіча адбылася цырымонія ўрачыстага гашэння памятным штэмпелем спецыяльнага канверта, выпушчанага да гэтай падзеі. Канверты, дарэчы, ужо ёсць у продажы на Галоўпаштамце.

ГОЛ!

# Чаму пакуль не бачна чэмпіёна?

*Першынство свету па футболе, якое праходзіць у Расіі, працягвае адных радаваць, а другіх засмучаць.*

Адразу выкажу сваё суб'ектыўнае меркаванне: ярка вызначанага лідара турніру я пакуль не бачу. Тыя, на каго робяць стаўку аналітыкі, быццам асцярожнічаюць, вырашаючы для сябе першасную задачу – выйсці з групы. Напрыклад, 20 чэрвеня гулялі адразу тры лідары сусветнага футбола – каманды Партугаліі, Уругвая і Іспаніі. Сустракаліся яны адпаведна са зборнымі Марока, Саудаўскай Аравіі і Ірана. Думаеце, што гранды расправіліся з аўтсайдарамі адной левай? Як бы не так! Ва ўсіх трох матчах фаварыты перамаглі з мінімальным лікам – 1:0, а пры большым фарце для іх сапернікаў апошнія маглі спадзявацца і наогул на лепшы вынік.



Адным словам, чэмпіянат свету – гэта асаблівы турнір, дзе кожны не хоча паказацца слабаком. І піжонства больш моцных каманд тут не праходзіць. Дарэчы, тая ж зборная Расіі, якую за слабую гульню перад першынством не крытыкаваў толькі лянівы, на сённяшні момант паказвае досыць прыстойны футбол і ўжо выйшла ў 1/8 фіналу, незалежна ад апошняй гульні з уругвайцамі (тыя таксама аформілі пуцёўку ў плэй-оф). І там расіян чакае самы сапраўдны тэст на прафесіяналізм – сустрэча альбо з Партугаліяй, альбо з Іспаніяй.

А вось для балельшчыкаў чэмпіянат свету – гэта не толькі ачкі-галы-секунды, але і пазафутбольнае жыццё. Піва, зносіны, знаёмствы з новымі людзьмі… Напрыклад, у Маскве ўжо каторы дзень шукаюць балельшчыка зборнай Мексікі Франсіска Хаўера Мата Санчаса. Сябры маладога чалавека паведамілі ў паліцыі, што на сувязь той не выходзіў пасля сустрэчы з расіянкай Аэлітай. Будзем спадзявацца, што рамантычныя прыгоды для Франсіска будуць мець шчаслівы канец. Як і для ўсёй зборнай Мексікі, якая сенсацыйна перамагла ў першым матчы каманду Германіі.

А вось з японскіх аматараў футбола можна браць прыклад. Яны пасля матча Японія–Калумбія, які праходзіў на стадыёне "Мардовія-Арэна" ў Саранску, перш чым адзначаць поспех, прыбралі на трыбунах усё смецце за сабой, дзеля чаго спецыяльна прынеслі вялізныя пакеты. Вось гэта культура балельшчыка! Трэба вучыцца…

**Алесь СІВЫ.**

### Вынікі матчаў, якія адбыліся 18–20 чэрвеня

**18 чэрвеня**
Бельгія–Панама – 3:0
Туніс–Англія – 1:2
Швецыя – Паўднёвая Карэя – 1:0
**19 чэрвеня**
Калумбія–Японія – 1:2
Польшча–Сенегал – 1:2
Расія–Егіпет – 3:1
**20 чэрвеня**
Партугалія–Марока – 1:0
Уругвай – Саудаўская Аравія – 1:0
Іспанія–Іран – 1:0

С МОЕЙ КОЛОКОЛЬНИ



*Елена МОЛОЧКО*

# «Ненавижу свою беременность»

Эта новость недавно прошла по многим информационным каналам: в Гродно задержали женщину с 10-кратным превышением содержания алкоголя в крови, которая управляла автомобилем. Шок: она была на восьмом месяце беременности! Сотрудникам ГАИ сказала, что ездила за молоком, но в салоне лежали две бутылки водки. Интересно, что при таком опьянении она еще смогла что-то внятное объяснить…

Хочется воздеть руки к небу от негодования, но пафос в данном случае неуместен. Он бесполезен, он уже утомителен. Чрезмерное употребление спиртного вредит любому здоровью. Кто может возразить против данного хрестоматийного постулата? Кто о нем не знает? Но женщины и мужчины пили, пьют и будут пить и злоупотреблять спиртным – это тоже очевидно. Наверное, некоторые люди приговорены к алкоголизму природой. Что поделаешь… Но они безответственно садятся за руль в нетрезвом состоянии, так что все автомобилисты на дороге становятся заложники их пропитых мозгов. Алкоголики разбиваются насмерть сами, гробят своих и чужих, близких и далеких, в том числе детей. Они – убийцы. Так и надо их классифицировать.

А эта женщина из Гродно – двойная убийца. Потенциальная – для участников дорожного движения, и очевидная – для своего плода. Потому что такое содержание алкоголя в крови – а оно составило немыслимую цифру в 3,02 промилле – верная смерть умственному развитию плода, а иногда, на поздних сроках беременности, и полная его гибель. Она об этом не догадывалась? Не верю. Конечно, знала, хотя бы интуитивно. Что, кстати, и сама косвенно подтвердила в разговоре с сотрудниками гродненской ГАИ, объяснив свое чудовищное поведение проблемами в семье.

А алкоголь, конечно, помогает их разрешить. Что и говорить, ума палата.

Но здесь наша тема делает разворот на 180 градусов. Беременная женщина, выходит, напивалась последовательно и специально. Кстати, ехала она очень осторожно, медленно, что и заставило наряд ДПС обратить внимание на ее автомобиль. То есть это не хронический алкоголик, который не понимает, что творит. Все было продумано. Но отчего такая жестокость? Возможно, к убийству ребенка (будем называть вещи своими именами) эту автодаму подтолкнула измена мужа или вообще его уход из семьи. Возможно, случился приступ необъяснимого страха перед финансовым крахом – может быть, партнер попал за решетку, сегодня это реальная ситуация. И вот женщина таким диким образом решила расправиться со своим плодом – отравить его алкоголем.

Это, конечно, никоим образом не смягчает ее вины, не уменьшает ответственности перед обществом. Но знать, что есть такая проблема – женщины, которые ненавидят свою беременность, – приходится.

У многих это случается неожиданно, вдруг. Человек хочет ребенка, но все идет не так. Психика дает сбой, и женщинам кажется, что они погружаются в ад. А все дело в гормонах, говорят врачи, именно они дают сбой. Возможно, гродненская нарушительница тоже из этого редкого печального отряда – беременных истеричек.

Смотрите: она была за рулем собственного автомобиля «Дэу», созналась, что выпила «немного» джина на даче (его пьют у нас редко, дорогой напиток, да и на любителя). Понятно, что уровень жизни этого человека выше среднего. Наверное, у женщины вполне обеспеченное существование, она не какое-то отребье, пропойца с обочины, которая не знает, от кого забеременела, и которая хлещет на лавочке во дворе с кем попало и что попало. Но ребенка тем не менее решается убить алкоголем…

Тяжелый случай психоза?

Не поверила бы, что так бывает, но однажды была очевидицей подобной истории. Преподаватель Лингвистического университета перестала аккуратно расчесываться, одевалась как попало и тоже начала прикладываться к бутылке – так протекала ее беременность. Мы, подруги, просто прокляли ее за такое поведение. А она равнодушно твердила: «Ненавижу свою беременность…»

Ей было под сорок. Она хотела ребенка, она хотела замуж и вот дождалась. Обычно ее монологи начинались словами: «Отвратительное тело! Кто видит в этом красоту?.. Мне все время хочется спать и есть. Я тупею!»

Ее все раздражало, она перестала выходить на улицу, устраивала истерики мужу. Поправилась почти на 15 килограммов, страдала от токсикоза, который выворачивал ее наизнанку. И, наконец, стала пробовать запивать свою беременность алкоголем. Тогда домашние просто забрали у нее деньги. Естественно, это привело ее в бешенство. Она стала просить денег у нас, знакомых, у близких и дальних, и пока мы поняли, в чем тут дело… Однажды даже ворвалась в парикмахерскую нашей общей знакомой, чтобы взять взаймы. Та поначалу чуть охрану не вызвала: в опустившейся тетке она не узнала нашу Таню – такой был у нее внешний вид.

Но все проходит, прошли и девять месяцев беременности. Родилась девочка, которая на дух не переносит свою мать, не желая, чтобы та даже дотрагивалась до нее. Малышка признает только руки отца. Может быть, есть шанс, что ребенок перерастет эти искажения в психике? Но пока что в семье настоящая война.

…А гродненской нарушительнице грозит большой штраф и лишение водительских прав на три года. Но это такая мелочь по сравнению со здоровьем будущего ребенка…

